# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE

№ 20 (1159) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 14 МАЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.


## КАЛІ ВЯСНА БУШУЕ

Сёлета вясна прыйшла сюды са спазненнем. Хоць быў канец красавіка, але па ўсёй лагчыне Нарвы яшчэ перавальвалася мутная хваля паводкі. Да ракі ў такую пару, вядома, не даступіцца. І ўсё ж праз ашалелы звон жаваранкаў і працяжную пераклічку кнігавак ужо тады прабіваўся па ўсім абшары ад Баб'яй Гары да Бандароў прывычны для гэтай ваколіцы спеў матораў бульдозераў, скрэпераў, самазвалаў і іншых машын.

— Мінулая зіма нас, будаўнікоў, не распешчвала, як самі ведаеце. Таксама і вясна па галоўцы не гладзіць. Не паспела крыху прасохнуць пасля растаяўшага снегу, як зноў задажджыла, а гэта ж для воднага будаўніцтва самае горшае. Нягледзячы на гэта, работы ішлі ўсю зіму і не спыняюцца цяпер...

І мой размоўца перарывае на паўслове, бо якраз атрымаў ён тэлефонную сувязь са сваім цэнтрам у Беластоку і пачаў уладжваць справу неадкладнага рамонту аўтобуса, што прывозіць і адвозіць рабочых будовы. Лопнулі рэсоры, і, калі не наладзіць паломкі зараз жа, тады людзі будуць вымушаны дабірацца дадому саматуж або заначаваць на будове. Не паспеў ён уладкаваць гэтую справу, як падышоў майстар і пачаў тыцкаць пальцам у чарцёж плана фундамента пад адзін з дапаможных будынкаў і паказваць у ім яўную памылку праектанта ды перапытваць, што з такім фантам мае зрабіць. Не паспелі яны ўтрэсці гэту справу, як уварваўся механік... Так, гэта быў звычайны дзень мгр інж. **Яна Каньчэўскага** — намесніка дырэктара Беластоцкага раённага меліярацыйнага прадпрыемства, якое з'яўляецца галоўным будаўніком Семяноўскага мора.

—Усю зіму ішлі працы пры пракладванні спецыяльнай глінянай перапонкі перад галоўнай плацінай каля Бандароў. Сама гэтая плаціна ўжо насыпана на даўжыні 300 метраў. Цяпер тут будзем узводзіць такі ж самы наступны кавалак гэтай плаціны. Гэта доўгі і працаёмкі працэс, бо пасля насыпання пласта зямлі таўшчынёй у паўметра трэба яго кожны раз дакладна ўбіць, утрамбаваць спецыяльнымі валамі. Як толькі сплывуць веснавыя воды, беластоцкае прадпрыемства „Водроль" прыступіць да пабудовы ў гэтай плаціне галоўнага яза для спуску лішкаў вады. Не спыняюцца працы пры пабудове новага чыгуначнага насыпу на лініі Семяноўка-Цісоўка. Не менш важная справа, як узвядзенне галоўнага аб'екта, з'яўляецца пабудова спадарожнічаючых яму аб'ектаў: жылля для рабочых, пад'язных дарог, энергетычных ліній, складаў і г.д. Таму поўным ходам цяпер ідзе ў нас пабудова дарогі да станцыі Нараўка, разгортваем узвядзенне жылога комплекса каля вёскі Рудня. Між іншым, будзе тут інтэрнат на 350 месц, 5 двухсямейных домікаў, воданапорная станцыя, абсталяванне для ачысткі сцёкаў і іншыя аб'екты. Гэты комплекс будзе служыць будаўнікам водасховішча, а потым турыстам і адпачываючым на яго ўзбярэжжы. На працілеглым ад гэтага аб'екта беразе ракі ўжо стаіць інтэрнат для рабочых на 40 месц, будуецца сталовая, галоўны склад, рамонтная майстэрня і іншыя аб'екты. Пасля заканчэння будовы яны будуць служыць надалей нашаму прадпрыемству пры меліяраванні даліны ракі Нарвы ад Бандароў уніз па яе цячэнню. Але галоўны напрамак нашых прац у гэтым годзе — гэта будова ба-



*Бойка ідзе пракладванне пад'язных дарог.*



*Узначальвае будову мгр інж. Ян Каньчэўскі.*

(Працяг на стар. 4)

## З рэпарцёрскіх запісак

## ХТО МУЦІЦЬ ВАДУ?

Вясна! Вада і сонца! Можа пакупацца?

Не раю. Спецыялісты з Беластоцкага цэнтра даследавання і кантролю асяроддзя папярэджваюць:

— На 880 кіламетраў важнейшых рэк Беласточчыны, якія знаходзяцца пад пастаянным нашым наглядам, аж 188 кіламетраў атручана.

Пытаю: як мы стаім на фоне краіны?

Спецыялісты адказваюць:

— Адносна паветра — маем, бадай, найчысцейшае паветра ў краіне. Гадавая норма 250 тон асадкаў пылу на адзін квадратны кіламетр рэдка калі бывае ў нас перавышана.

З вадой ужо горш. У Беластоцкім ваяводстве ёсць аж 56 камбінатаў, фабрык і прадпрыемстваў, якія пастаянна атручваюць нам ваду. Знаходзяцца яны перш за ўсё ў Беластоку, Лапах, Бельску, Міхалове, Сямяцічах, Саколцы і Дуброве Беластоцкай. Нават там, дзе няма буйнейшых гарадоў, на поўдні ваяводства, наглядаецца павышаная колькасць шкодных для жывых арганізмаў прымясей у вадзе рэк і ручайкоў.

*

Пачнем ад Беластока. Звыш 200-тысячны горад, з разбудаванай прамысловасцю рассеўся на берагах невялічкай рачулкі. Цяпер у наваколлі Беластока ў Бялцы ў 2,4 раза больш прамысловых і камунальных сцёкаў, чымсьці чыстай вады, бо Беласток не мае яшчэ гарадской ачышчальні.

*

Самай небяспечнай крыніцай атруты на Беласточчыне з'яўляецца горад Лапы са сваёй цукраварняй і малачарняй. Маюць яны ачышчальню. На жаль, вельмі часта іх сцёкі чамусьці плывуць проста ў Нарву.

(Працяг на стар. 4)



*З купаннем — асцярожна!*

## КАБ І Ў БУДУЧЫМ ТАК!..

Дваццацігадовая дзейнасць літаратурнага аб'яднання „Белавежа" і вызначэнне напрамкаў далейшага развіцця літаратурнага руху ў нашым асяроддзі стаялі на парадку дня **пленума Галоўнага праўлення БГКТ**, што адбыўся 23 красавіка бягучага года. Старшыня ГП БГКТ **М. Самоцік** адкрыў пленум і прывітаў прыбыўшых на яго віцэ-прэзідэнта горада Беластока **В. Садоўскага,** дырэктара аддзела культуры і мастацтва Ваяводскага ўпраўлення **З. Кыцю,** намесніка дырэктара аддзела ўнутраных спраў Ваяводскага ўпраўлення **І. Федаровіча,** старшага інспектара адміністрацыйнага аддзела Ваяводскага камітэта ПАРП **А. Сеўку.** Урачысты характар пасяджэння падкрэсліла таксама ўручэнне В. Садоўскім залатых і сярэбраных медаляў **„Заслужаны для Беласточчыны"** дзяячкам нашай арганізацыі **Н. Аўэрчук, Н. Мушынскай, Н. Цыванюк** і **Т. Цыванюк,** а М. Самоцікам — уручэнне памятных медаляў 20-годдзя БГКТ рэдактару „Зоркі" **Я. Чэрнякевіч** і шматгадоваму актыўнаму карэспандэнту „Нівы" **А. Закройшчыку.**

З грунтоўным дакладам аб дваццацігадовай дзейнасці „Белавежы", яе дасягненнях, цяжкасцях і недахопах выступіў старшыня нашага літаратурнага аб'яднання **В. Швед.** Прадставіў ён асноўныя этапы развіцця нашага літаратурнага руху, падкрэсліў вялікую ролю „Нівы" ў разбуджэнні зацікаўлення арыгінальнай літаратурнай творчасцю, удасканальванні творчага варштату і згуртаванні літаратурных сілаў пры ГП БГКТ. Характарызуючы творчасць паасобных вядучых „белавежцаў", дакладчык падкрэсліў іх заангажаванне ў грамадскім, культурным і навуковым жыцці нашай краіны, а таксама вялікі ўклад у розныя галіны дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства, асабліва актывізуючую ролю аўтарскіх сустрэч у маламестачковым і вясковым асяроддзях Беласточчыны. Лепшыя творчыя здабыткі членаў „Белавежы" былі змешчаны ў „Ніве", беларускіх календарах, альманахах, калектыўных і індывідуальных зборніках твораў, але ў апошнія гады ўзнікла патрэба павелічэння колькасці гэтых выданняў. Да творчых здабыткаў „белавежцаў" вельмі прыхільна адносяцца літаратурныя асяроддзі і культурныя ўстановы Народнай Польшчы і Савецкай Беларусі, а іх творы паяўляюцца часта ў перакладзе на польскую мову, а таксама ў розных выдавецтвах Беларускай ССР. Значны ранг „Белавежы" ў літаратурным жыцці нашай краіны падкрэслівае таксама і тое, што чатыры члены аб'яднання належаць да Саюза польскіх пісьменнікаў. З кожным годам павялічваецца колькасць членаў аб'яднання, прыбывае ў яго адароная моладзь. „Падсумоўваючы, трэба аб'ектыўна сцвердзіць, што беларускае літаратурнае аб'яднанне мае дасягненні, якімі можна ганарыцца, — сказаў В. Швед. — Вялікая разнастайнасць жанраў і стыляў, разнавіднасць творчых метадаў паасобных аўтараў сведчыць аб тым, што гэты рух сталее з кожным годам і ўзбагачае нашу беларускую нацыянальную культуру, а таксама культуру Народнай Польшчы".

Пасля даклада разгарнулася дыскусія, выступілі: **А. Баршчэўскі, М. Гайдук, Ю. Геніюш, А. Іванюк, Н. Мушынская, Я. Целушэцкі, Н. Цыванюк, В. Швед** і іншыя. Выступаючыя закраналі найбольш істотныя справы, звязаныя з далейшай дзейнасцю „Белавежы": павелічэнне колькасці выданняў твораў яе членаў, часцейшыя выезды іх на аўтарскія сустрэчы ў розныя мясцовасці Беласточчыны, жанравае ўзбагачэнне іх творчасці нарысамі, мемуарамі, дзённікамі, стварэнне больш цікавых і даступных гледачам п'ес для тэатральнай самадзейнасці, больш спраўнае распаўсюджанне выданняў БГКТ з творамі „белавежцаў", неабходнасць больш патрабавальнай літаратурнай крытыкі ў адносінах да творчасці нашых аўтараў і шэраг іншых праблем.

(Працяг на стар. 4)

## ШТО НОВАГА?

### ЦІ БЫЦЬ ТУНЕЛЮ ПАД ЛА-МАНШАМ?

Закінутую штольню метраў трыста даўжынёю, якая захавалася на паўднёвым узбярэжжы Англіі, лічаць цяпер ледзь не турысцкім аб'ектам. Гэта нахіленая штольня, высечаная ў крэйдавых пародах, — своеасаблівы помнік гінучай ідэі будаўніцтва падземнага тунеля пад Ла-Маншам, які злучыў бы берагі Англіі і Францыі.

Сама ідэя будаўніцтва падземнай трасы нарадзілася на Брытанскіх астравах каля ста гадоў назад.

„Другое жыццё" ідэя атрымала ўжо ў нашы дні, калі паміж урадамі Англіі і Францыі адбыліся перагаворы аб сумесным будаўніцтве грандыёзнага збудавання. Спачатку быццам бы аб усім дамовіліся. Спецыяльна створаная англійскімі інжынерамі „крот" — звышмагутная землярыйная машына для падземнай праходкі — на выпрабаваннях паказала сябе добра, падняўшы на паверхню каля шасці тысяч тон грунту. Вось толькі расходы на будаўніцтва тунеля — амаль 20 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў, — як выявілася, для Англіі непасільныя.

Не так даўно, праўда, у брусельскай штаб-кватэры „агульнага рынку" з'явіўся на свет план, які прадугледжвае прыцягненне да будаўніцтва тунеля іншых краін Еўрапейскага эканамічнага супольніцтва. Аднак потым у „агульным рынку" прыйшлі да вываду, што не толькі будаўніцтва, але і перагаворы аб будаўніцтве тунеля „абсалютна нясвоечасовыя".

Англійскі, ды і ўвесь заходнееўрапейскі друк, час ад часу піша аб сумным лёсе праекта, падкрэсліваючы, што галоўная перашкода на шляху яго ажыццяўлення — гэта, маўляў, недахоп сродкаў. У гэтым ёсць, вядома, доля ісціны. Але не менш, думаецца, падстаў і ў лонданскай газеты „Таймс", якая заяўляе, што супраць будаўніцтва тунеля ў прынцыпе выступаюць прыватныя кампаніі, якія займаюцца перавозкай грузаў паміж Англіяй і кантынентальнай Еўропай на суднах і самалётах. Яны кроўна зацікаўлены ў тым, каб такія перавозкі і надалей працягваліся „над Ла-Маншам", а не „пад Ла-Маншам".

### АМЕРЫКАНСКАЯ ЗБРОЯ АГРЭСАРУ

Ізраіль з'яўляецца буйнейшым на Блізкім Усходзе атрымальнікам амерыканскай ваеннай тэхнікі і ўзбраенняў. Паводле даных амерыканскага друку, за апошнія 6 гадоў Тэль-Авіў атрымаў з-за акіяна зброі на суму 7 мільярдаў долараў. Цяпер Ізраіль атрымлівае з ЗША ваеннай тэхнікі і рыштунку ў пяць разоў больш, чым да кастрычніка 1973 года.

З арсеналаў Пентагона ў Тэль-Авіў паступілі верталёты, аснашчаныя процітанкавымі ракетамі, патрульныя судны, навейшыя знішчальнікі-бамбардзіроўшчыкі „F-15" і „F-16", боепрыпасы. За кошт амерыканскіх асігнаванняў фінансуецца вытворчасць ізраільскага танка „Чарыот". Толькі ў наступным фінансавым годзе на ваенную падтрымку Ізраілю з амерыканскага бюджэту выдзяляецца 1 мільярд долараў, а таксама 785 мільёнаў долараў у рамках праграмы „дапамогі па забеспячэнню бяспекі".

У лютым гэтага года прэзідэнт ЗША Дж. Картэр прыняў рашэнне аб пастаўцы Ізраілю 90 самалётаў „F-15" і „F-16". Акрамя таго, Тэль-Авіў дабіваецца атрымання яшчэ 175 амерыканскіх ваенных самалётаў.

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**480 гадоў назад**

20 V 1498 экспедыцыя Васка да Гамы дасягнула берагоў Індыі. Быў адкрыты марскі шлях у Індыю.

**130 гадоў назад**

15 V 1848 нар. Віктар Васняцоў, рускі жывапісец, пачынальнік нац. рамантычнага кірунку ў рус. рэаліст. жывапісе.

**105 гадоў назад**

17 V 1873 нар. Анры Барбюс, французскі пісьменнік. Найбольш вядомая кніга — „Агонь".

**35 гадоў назад**

14 V 1943 была ўтворана ў СССР І дывізія пяхоты імя Тадэвуша Касцюшкі.



*Калгасны басейн. У ордэна Леніна калгасе „Прагрэс" Гродзенскага раёна ёсць добра абсталяваны плавальны басейн. На здымку: заняткі з дзецьмі калгаснікаў праводзяць вопытныя трэнеры.* Фота А. Перахода.

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ЭКСПАНАТЫ РАСКАЗВАЮЦЬ АБ ЗЕМЛЯКУ

Два гады назад у Тамашэўскай сярэдняй школе Брэсцкай вобласці быў створаны музей касманаўтыкі. Тут вучыўся двойчы Герой Савецкага Саюза касманаўт Пётр Клімук.

За два гады музей папоўніўся мноствам новых экспанатаў, звязаных з палётамі ў космас П. Клімука. Тут захоўваюцца асабістыя рэчы касманаўта, яго фотаздымкі, камсамольскі значок, кніга „Сыны блакітнай планеты" з аўтографамі касманаўтаў.

Нядаўна з Зорнага гарадка атрыманы скафандр Пятра Ільіча і крэсла, у якім ён працаваў у час аднаго з палётаў у космас.

### НОВЫЯ „ВАРОТЫ" ГОРАДА

Адобраны праект новага чыгуначнага вакзала ў Мінску. Ён стане адным з буйнейшых збудаванняў у горадзе.

Будзе рэканструявана і Прывакзальная плошча. Прадугледжана будаўніцтва сістэмы тунеляў і падземных пераходаў, праз якія пасажыры выйдуць проста да прыпынкаў гарадскога транспарту, у метро.

Умяшчальнасць новага вакзала міжнароднага класа — 5 тысяч пасажыраў далёкіх маршрутаў і 1 800 — прыгарадных.

### У СТРАІ — НОВЫ ЦЭХ

Здадзены ў эксплуатацыю новы цэх на Гомельскім вытворчым абутковым аб'яднанні „Праца". Яго магутнасць — 850 тысяч пар абутку ў год. Тут зманціравана дваццаць канвеерных ліній агульнай даўжынёй каля кіламетра.

### ДАЎГІНАЎСКІЯ НАВАСЕЛЛІ

У вёсцы Даўгінава Вілейскага раёна пабудаваны двухпавярховы гандлёвы цэнтр. Пад яго дахам размясціліся прамтаварны, прадуктовы і кніжны магазіны, а таксама вялікая сталовая. На чарзе яшчэ адна новабудоўля гандлю — мэблева-гаспадарчы магазін.

### МІНСКІЯ ГАДЗІННІКІ

Мінскі гадзіннікавы завод выпускае мужчынскія і жаночыя гадзіннікі „Прамень" з самым разнастайным знешнім афармленнем. Яны карыстаюцца вялікім попытам у пакупнікоў і ідуць на экспарт у многія краіны.

Дваццаць працэнтаў прадукцыі выпускаецца са Знакам якасці. Гэта жаночыя наручныя гадзіннікі „Прамень — 1809", „Прамень-1814", аўтамабільныя гадзіннікі для „Жыгулёў" АЧМ-1. Атэстуецца ганаровым пяцівугольнікам таксама жаночы наручны гадзіннік „Прамень-1816" з календаром і аўтападзаводам. Да канца дзесятай пяцігодкі выпуск прадукцыі са Знакам якасці павялічыцца на 10 працэнтаў.



*На здымку: кантралёр кантрольна-выпрабавальнай станцыі камсамолка Часлава Млечка з гадзіннікам „Прамень-1809".*

## ХРОНІКА

■ 11.04 — актывістка варшаўскага гуртка БГКТ В. Анішчук наладзіла ў зале Інстытута рускай, беларускай і ўкраінскай філалогіі Варшаўскага універсітэта на вул. Смычковай 5/7 аўтарскі вечар „белавежцаў". Са сваімі вершамі выступілі: А. Барскі, В. Швед і Н. Артымовіч.

■ 19.04 — у варшаўскім клубе БГКТ адбыўся вечар, прысвечаны багатай матэрыяльнай культуры Беласточчыны. З лекцыяй на тэму „Матэрыяльная і духоўная культура беларускага насельніцтва, пражываючага на Беласточчыне" выступіў В. Швед.

■ 20.04 — у клубе БГКТ у Беластоку адбылося пасяджэнне прэзідыума беластоцкага гуртка БГКТ. Пасля пасяджэння з дакладам на тэму „Польска-савецкае супрацоўніцтва" выступіў д-р Ул. Юзвюк.

■ 22.04 — у беластоцкім „Арсенале" адбыўся аўтарскі вечар маладога таленавітага паэта М. Шаховіча. У гэтым годзе ў друку паявіўся зборнік яго паэзіі „Праміманне".

■ 23.04 — у памяшканні ГП БГКТ у Беластоку адбылося пленарнае пасяджэнне, прысвечанае тэме: „Беларускі літаратурны рух у Народнай Польшчы" — 20 год дзейнасці літаб'яднання „Белавежа".

■ 25.04 — д-р А. Баршчэўскі выступіў у памяшканні БГКТ на Сенатарскай 8 у Варшаве са змястоўным дакладам „Беларуская веснавая абраднасць і фальклор". **А. Л.**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**

**Кавалер Крыжа Заслугі ● Зачаравала роднае слова ● Свінні і бюракраты ● Пытанні па граматыцы на вусны экзамен для кандыдатаў на Беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта ● Беларускія народныя балады ● Адкрываем новую рубрыку ● Весткі з Ахрымаўцаў, Міхалова, Рыбакоў, Бельска, Навасад, Гайнаўкі, Дубіч Царкоўных, Цялушак, Трасцянкі ● Як задрыпанец карову купляў ● Песня** „Jeszcze tyle do zrobienia".

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 13 V** — 6.00 TTR. Upr. rośl. 6.30 Hod. zwierz. 10.00 Dla kl. VII Zool. 11.05 Dla kl. VIII Geogr. 12.45 TTR. Hod. zwierz. 13.25 Mech. rol. 14.35 Red. szk. zap. 14.45 Pr. dnia. 14.50 Radzimy rol. 15.00 Dziennik. 15.10 Obiektyw. 15.30 Pr. dla najmłod. 16.00 Rodowody. 16.30 Pr. wojskowy. 17.00 Sport: III etap WP. Mistrz. świata w boksie. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Wynajęty człowiek — western ameryk. 22.10 Dziennik. 22.15 Sport. Kronika WP. Mistrz. św. w boksie. 23.15 Filmy z Brigitte Bardot: Bulwar rumu.

**Niedziela 14 V** — 6.35 TTR. Hod. zwierz. 7.05 Mech. rol. 7.35 Nasze spotkania. 7.55 Now. w domu i zagr. 8.20 Sport. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 U zarania dziejów — film dok. 11.45 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.30 Muzyka na Zamku. 13.00 Z kamerą wśród zwierząt. 13.30 Piórkiem i węglem. 13.55 Klub Sześciu Kont. 14.45 Los. Dużego Lot. 15.00 W Starym Kinie: Tarzan w Nowym Jorku. 16.15 Bank 440 — finał. 17.30 Sport. IV etap WP. Finał Turnieju UEFA jun. w p. nożnej. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Bajka dla dor. 20.40 Noce i dnie — odc. XII ser. 21.45 Sport: Kronika WP. Mistrz. św. w hokeju. Mistrz św. w boksie.

**Poniedziałek 15 V** — 12.45 RTSS. Fiz. 13.25 TTR. Mech. rol. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — filozof. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Zwierzyniec. 17.10 Klub kibica. 17.45 Riuny strzelają — odc. VI. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. St. Wyspiański: Warszawianka. 21.40 Camerata. 22.10 Dziennik. 22.25 Sport: Kronika WP. Mecz kontrol. Kadra — NRD. Mistrz. św. w boksie.

**Wtorek 16 V** — 6.00 RTSS. Fiz. 6.30 TTR. Mech. rol. 8.00 Noce i dnie — odc. XII. 9.00 Dla kl. III Mat. 10.00 Dla kl. VI J. pol. 11.05 Dla kl. II lic. J. pol. 12.45 RTSS. Chem. 13.25 Biol. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Tel. Klub Seniora. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Mł. 17.00 Zgadnij kim jestem — teletur. 17.40 Sport. V etap WP. Mistrz. św. w boksie. 18.25 Człowiek i przyroda — cz. II hiszp. filmu dok. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Saga rodu Palliserów — odc. XVIII. 21.30 W minutę po premierze. 22.00 Dziennik. 22.15 Sport. Kronika WP. Mistrz. św. w boksie.

**Środa 17 V** — 6.00 RTSS. Chem. 6.30 Biol. 10.00 Dla kl. VII Fiz. 11.05 Hist. 12.00 Wych. plast. 12.45 RTSS. Mat. 13.25 TTR. Hod. zwierz. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — naucz. pocz. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Spoza gór i rzek. 17.00 Los. Małego Lot. 17.15 Kółko i krzyżyk. 17.30 Sport: Mecz p. nożnej Lech Poznań—Herta NRD. VI etap WP. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Kot — fr. dramat obycz. 22.05 Dziennik. 22.20 Sport: Kronika WP. Mecz p. nożnej Kadra—Francja. Mistrz. św. w boksie. 23.20 Rozmowy o sztuce.

**Czwartek 18 V** — 6.00 RTSS. Mat. 6.30 TTR. Upr. rośl. 9.00 Dla kl. I lic. J. pol. 9.25 Decyzje piętnastolatków. 10.00 Dla kl. VI Hist. 11.05 Dla kl. III lic. J. pol. 12.00 Dla kl. VIII J. pol. 12.45 RTSS. J. pol. 13.25 Fiz. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Kto czyta nie błądzi. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Ekran z Bratkiem. 17.30 Sport. VII etap WP. Półfinały Mistrz. św. w boksie. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Ostrzegamy wszystkie żony — ameryk. film sens. 21.25 Pegaz. 22.10 W minutę po premierze. 22.45 Dziennik. 23.00 Sport: Kronika WP. Mistrz. św. w boksie.

**Piątek 19 V** — 6.00 RTSS. J. pol. 6.30 Fiz. 9.00 Dla najmł. Wycieczka do ZOO. 11.05 Dla kl. VII Wych. ob. 12.00 Dla kl. I—III lic. Wych. tech. 12.45 TTR. Upr. roślin. 13.25 Mech. rol. 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — ped. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Kryptonim Stella — odc. VI. 17.45 Sport. VIII etap WP. 18.30 Magazyn motor. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Preludium — radz. dramat obycz. 21.50 Sport. Kronika WP. Mecz p. nożnej Francja—Tunezja. 22.50 Dziennik. 23.05 Studio teatralne. S. Brzozowski: Milczenie.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 12 V** — 8.55 Film fab. 18.00 Mistrz. świata w hokeju. 20.45 Pr. estrad. 21.30 Mistrz. świata w hokeju.
**Sobota 13 V** — 13.20 Film fab. 14.40 Nie do wiary. 17.45 Film fab. 20.30 Koncert.
**Niedziela 14 V** — 10.00 Film fab. 12.40 Spektakl. 14.25 Panorama międzynar. 15.00 Mistrz. świata w hokeju. 17.25 Klub film. 18.30 Mistrz. świata w hokeju 21.05 O balecie.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Zapach kobiety — wł. 16—17. Terror Mechagodzilli — jap. 18—19. Okrągły tydzień — pol. 20—21.
**Bielsk Podl.** Pasja — pol. 16—17. Nickoleodeon — ang. 18—19. Torba inkasenta — radz. 20—21.
**Czeremcha** Święto dzikich zwierząt — fr. 16—17. Nie ma powrotu Johny — pol. 20—21. Alicja już tu nie mieszka — USA 23—24.
**Czyże** Skazany — pol. Wielki łup gangu Olsena — duń. 17—21.
**Dubicze Cerk.** Dziewczynka z Hanoi — wiet. Nie ma dymu bez ognia — fr. 17—21.
**Gródek** Zapach kobiety — wł. 20—21.
**Michałowo** Byliśmy tacy zakochani — wł. 16—17. Milioner — pol. 18—19. Gorące polowanie — jap. 20—21.
**Mielnik** 40 karatów — USA — 17. Rafferty i dziewczyny — USA 20—21.
**Milejczyce** Noc nad Chille — radz. Okrągły tydzień — pol. 17—21.
**Narewka** Pani Bovary — to ja — pol. Zaufanie — radz. 17—21.
**Orla** Krótki sezon — wł. Robert i jego małpka — czes. 17—21.
**Rajsk** Piraci na Pacyfiku — rum. Skarb na wyspie — rum. 17—21.

B.Z.Graf. Zam. nr 1071 7.600 egz. N-4

# ЛЮБІЦЕЛЯМ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Праз некалькі месяцаў беларускі народ будзе адзначаць знамянальную шасцідзесятую гадавіну паўстання Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У сувязі з гэтым Галоўнае праўленне БГКТ, Ваяводская публічная бібліятэка і рэдакцыя „Нівы" аб'яўляюць **вялікі чытальніцкі конкурс.** Ён будзе праходзіць пад лозунгам **„Праца і барацьба беларускага народа на працягу 60 год у беларускай савецкай літаратуры"**. Яго асноўнае заданне — папулярызаваць творы беларускай савецкай літаратуры.

**Конкурс будзе працягвацца ад месяца красавіка 1978 года да мая 1979 года.** У ім могуць прыняць удзел усе, каму споўнілася 14 год, за выключэннем настаўнікаў беларускай мовы і студэнтаў беларускай філалогіі. **Аб сваім жаданні прыняць удзел у конкурсе абавязкова трэба да 1 кастрычніка 1978 года сказаць кіраўніку той публічнай бібліятэкі, якая знаходзіцца ў мясцовасці, дзе вы пражываеце, або блізка яе.**

У конкурсе будуць два этапы: раённы і фінальны.

Раённыя элімінацыі правядуць гарадскія і гарадскія-гмінныя публічныя бібліятэкі супольна з гурткамі Беларускага грамадска-культурнага таварыства **да 30 сакавіка 1979 года.** У гэтых элімінацыях возьмуць удзел усе, хто паведаміў кіраўніку публічнай бібліятэкі аб тым, што прыступіў да конкурсу. Да гэтага часу кожны ўдзельнік элімінацый павінен прачытаць творы, пададзеныя ў адным з конкурсных саставаў выбраных твораў беларускай савецкай літаратуры. Аж пяць такіх саставаў да выбару самім удзельнікам пададзены ў правілах конкурсу, што знаходзяцца ў кожнай бібліятэцы. Удзельнікі конкурсу павінны праявіць ініцыятыву і знайсці да прачытання патрэбныя творы, хоць наогул яны ёсць у большасці публічных бібліятэк. На раённых элімінацыях кожны ўдзельнік будзе расказваць аб 1-2 творах з выбранага ім саставу. Трохасабовая камісія журы, якая будзе складацца з працаўніка бібліятэкі, настаўніка, прадстаўніка маладзёжнай арганізацыі або актывіста БГКТ, будзе ацэньваць выказванне кожнага ўдзельніка і выбярэ 1-2 прадстаўнікоў свайго раёна на фінальныя элімінацыі.

Фінальныя элімінацыі правядуць Галоўнае праўленне БГКТ супольна з Ваяводскай публічнай бібліятэкай **6 мая 1979 года** ў Беластоку. Элімінацыі гэтыя будуць мець дзве ступені. **Першая будзе пісьмовай,** і ў часе яе ўдзельнікам трэба будзе адказаць на сем пытанняў аб дзейнасці і творчасці вядучых беларускіх савецкіх пісьменнікаў і найважнейшых падзеях у грамадскім і культурным жыцці Беларускай ССР. **Другая ступень будзе вусная,** удзельнікі будуць адказваць на вылясаваныя імі тры пытанні па прачытаных творах. На фінальных элімінацыях адказы ўдзельнікаў ацэньваць будзе 3-асабовая камісія журы, у склад якой увойдуць прадстаўнікі ГП БГКТ, Ваяводскай публічнай бібліятэкі і рэдакцыі „Нівы".

Арганізатары конкурсу звяртаюцца да ўсіх працаўнікоў гарадскіх, гарадскіх-гмінных, гмінных, школьных і іншых бібліятэк, а таксама да актывістаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства з заклікам як мага шырэй папулярызаваць конкурс. Для гэтага неабходна вывесіць адпаведна падрыхтаваныя і аформленыя аб'явы ў бібліятэках, клубах і святліцах, арганізаваць выстаўкі твораў беларускай савецкай літаратуры, праводзіць індывідуальныя заахвочваючыя размовы з чытачамі, наладзіць сувязі са школамі і маладзёжнымі арганізацыямі і г.д.

Багаты выбар твораў, патрэбных на конкурс, чытачы знойдуць у бібліятэках: Галоўнага праўлення БГКТ, Беласток, вул. Варшаўская 11, адкрыта ад 18 да 22 гадз.; Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, вул. Вызвалення 5; Беларускага ліцэя ў Бельску, вул. Каперніка 4; Гарадской публічнай бібліятэкі ў Бельску, вул. Міцкевіча 68; Гарадской бібліятэкі ў Гайнаўцы, вул. 1 Мая 45; у бібліятэках тых васьмікласных пачатковых школаў, у якіх вядзецца навучанне беларускай мовы.

Бібліятэкі і гурткі БГКТ абавязаны скласці справаздачы аб правядзенні конкурсу, колькасці ўдзельнікаў і формах працы да 31 снежня 1978 г., а гарадскія публічныя бібліятэкі аб раённых элімінацыях — да канца сакавіка 1979 г.

**Арганізатары конкурсу прадбачваюць каштоўныя ўзнагароды для ўдзельнікаў і для тых, хто ўнясе выдатны ўклад у яго папулярызацыю і спраўнае правядзенне.**

Жадаем многа прыемных уражанняў і задавальнення ў часе чытання твораў беларускай савецкай літаратуры і заахвочваем да ўдзелу ў конкурсе.

**АЛІМПІЙЦЫ БЕЛЛІЦЭЯ**

## Вера Гапанюк

У кожнага свае зацікаўленні. Адных прыцягвае спорт, другіх музыка, іншых танцы. Верай Гапанюк заваявала хімія. Доследы, даўжэзныя запісы хімічных рэакцый, задачы... Яшчэ ў пачатковай школе, якую канчала ў Нурцы, на яе гарызонце запалілася заранкай хімія. Вера Гапанюк засталася вернай хіміі і ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім. У гэты ліцэй прывялі яе дзве справы: узровень навучання, які даваў шырокую магчымасць праходу ў свет і другая — беларуская мова. Родная. Тая, якую чула штодзённа ў сваёй роднай вёсцы Малочкі. Тая, якую разам з жыццём узяла ад бацькоў. Настаўніца хіміі Вера Сідэвіч зоркім вокам педагога вельмі хутка заўважыла яе здольнасці і ўсімі сіламі пачала дапамагаць у пашырэнні ведаў. Потым алімпіяда. Першыя поспехі і велізарнае задавальненне. Гэта ж не тое, што ў сваёй школе. Тут школ шмат, і, зразумела, самыя найлепшыя іх прадстаўнікі. Праверка сіл.

— Я вельмі ўдзячная маёй настаўніцы Веры Сідэвіч, — гаворыць В. Гапанюк. — Нягледзячы на тое, што працуе яна настаўніцай усяго толькі некалькі год, то з'яўляецца сапраўды цудоўным педагогам. Абы толькі самому хацець, а яна дапамагчы заўсёды дапаможа. А настаўніцкая дапамога тут неабходная.

Несумненна, так. Бо ці ж будзе гарэць вогнішча, калі не падкладаць дроў? Вера Гапанюк вучыцца ў апошнім класе. Перад ёй матура. І мы са свайго боку жадаем ёй поспеху.

**Міхась Шаховіч**
Фота аўтара



*Вера Сідэвіч са сваёй вучаніцай.*

Борзда плыве час у культурна-асветных пунктах гміны Белавежа. Усе яны ў апошні час атрымалі настольныя ігры, новыя праігрывацелі, пласцінкі, радыёпрыёмнікі, праектары, магнітафоны. Ва ўсіх ёсць тэлевізары (у памяшканні гміннага цэнтра культуры ёсць нават каляровы). Праведзены таксама ў белавежскіх клубах бягучыя рамонты. Кожны клуб выпрацоўвае самастойную форму дзейнасці. У Падалянах і Будах накіроўваюцца на працу з дзецьмі, у Тэрамісках і ў клубе ў Лясным тэхнікуме — на працу з моладдзю, у цэнтры сучаснай гаспадыні ў Белавежы — на працу з жанчынамі.

У мінулым годзе ва ўсіх клубах праведзена разам 15 сустрэч з цікавымі людзьмі, 10 згадуй-згадуляў, прачытана 20 лекцый на сельскагаспадарчыя, санітарныя, юрыдычныя і палітычныя тэмы, наладжана 8 вечарынак, падрыхтавана мноства кулінарных паказаў, спалучаных з смакаваннем згатаванай стравы. Для моладзі арганізоўваліся часта танцавальныя вечары. Дзецям, у дзень іх свята, былі наладжаны цікавыя мерапрыемствы; а таксама паказаны спектакль лялечнага тэатра. У рамах усеагульнага універсітэта ў клубах ў Падалянах, Тэрамісках і Будах адбылося 10 лекцый, спалучаных з дэманстрацыяй фільмаў.

## КУЛЬТУРА БЕЛАВЕЖЫ

Гмінны цэнтр культуры ўжо 3 гады супрацоўнічае з гуфцам працы Медыцынскай акадэміі ў Беластоку. Моладзь цэлы месяц наведвае пушчанскія вёскі, наладжваючы для насельніцтва згадуй-згадулю на санітарныя тэмы, дэманструючы таксама фільмы. Адначасова вядзецца збор грошай на фонд аховы здароўя. У апошняй акцыі ўдзельнічала нават тэлевізійная група, якая рэалізавала спецыяльную праграму аб дзейнасці гуфца (праграма была паказана ў магазіне „7-ка").

Падчас Дэкады культуры вёскі цэнтр культуры наладзіў сувязі з фабрыкай мэблі, што ў Беластоку. Для беластоцкіх рабочых падрыхтавана выстаўка „лясных дзіваў" Г. Садчук, вырабаў з карэнняў С. Банаха і разьба па дрэве С. Доўбыша. Складзены таксама план супрацоўніцтва на бягучы год.

Пры цэнтры існуе вакальна-інструментальны ансамбль „Лабірынт" пад кіраўніцтвам Аляксея Валкавыцкага. Ансамбль гэты, у якім іграе і спявае пяць чалавек, выпрацоўвае на цэнтр значны даход. Існуе пры цэнтры таксама музычны гурток, у якім на піяніна вучыцца іграць 25 дзяцей. Дзеці ўжо выступілі з двума канцэртамі для жыхароў Белавежы.

Цэнтр супрацоўнічае з шматлікімі гміннымі ўстановамі, прадпрыемствамі і грамадскімі арганізацыямі. Супрацоўнічаючы з спартыўным клубам, наладзіў, напрыклад, шахматныя (пераможац Віктар Бушко) і шашачныя (пераможац Мікалай Лісіцкі) турніры, а таксама падрыхтаваў у гміне свята спорту, спалучанае з кніжным кірмашом. Для дзяцей наладзіў 6 мерапрыемстваў. Супрацоўніцтва з гуртком экскурсаводаў ПТТК, праўленнем аддзела ПТТК і Таварыствам прыяцеляў Белавежы прынесла лекцыі на тэмы турысцкіх і краязнаўчых вартасцей Беласточчыны, а супрацоўніцтва з радай жанчын пры ГП ФАН — конкурсы „Найпрыгажэйшы агародчык", „Больш агародніны" і выстаўкі кветак.

Нічога дзіўнага, што гмінны цэнтр культуры ў Белавежы заваяваў у мінулым годзе ў гайнаўскай акрузе I месца ў конкурсе па культурнай актывізацыі вясковага асяроддзя. Апрача таго, на сёлетнім ваяводскім падвядзенні вынікаў культурнай працы 4 асобы з Белавежы атрымалі дыпломы. Гэта Уршуля Муканоўская (старшыня культурна-асветнага гміннага камітэта), Тадэуш Макшыцкі (дырэктар Лясного тэхнікума), Генрык Мар'янскі (начальнік гміны) і Анна Байко (дырэктар гміннага цэнтра культуры, якая гэтую функцыю выконвае ўжо 16 год).

Мае цэнтр і свае клопаты. Найвялікшы з іх гэта нястача адпаведнага, абшырнага памяшкання, у якім можна было б весці разнародныя заняткі. Дакучае недахоп фінансавых сродкаў для інструктараў, якія б вялі пастаянныя формы працы ў цэнтры і ў клубах.

**Пётр Байко**
Фота аўтара



*Анна Байко — шматгадовы дырэктар гміннага цэнтра культуры ў Белавежы за сваю працу ўзнагароджана Бронзавым Крыжам Заслугі, значком заслужанага дзеяча культуры і залатым значкам ТППР.*

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-78



*Дуэт з Гарадка — Галена Кот і Ірэна Паўлючук (II месца ў катэгорыі сучаснай песні). Фота М. Шаховіча.*

М. ШАХОВІЧ

## З НАРОДНЫХ ГАВОРАК

**калтыга** — нярака, нядбайніца. Чалавек, які не дбае пра сябе ў сэнсе чыстаты. Найчасцей адносіцца гэта да гаспадыні, у якой вельмі брудна ў хаце. Ну такой калтыгі я не бачыла. Каб так ужо брудна ў хаце было, гэта ж страх. Як не сорамна?

**не апрандаваць** — ні з кім не лічыцца, дбаць толькі пра сябе, не зважаючы на іншых. Не лічыцца з тым, што гавораць іншыя. Та гэта ўжо такі чалавек. Ён усё жыццё нікога не апрандуе — стары гэта ці малы, усё роўна.

**ночвы** — прадоўжастая драўляная пасудзіна, у якой салілі сала. Прынясі з каморы ночвы, то адразу сала пасолім. Ужо схалонула.

**салянка** — вада, у якой варылася скробаная бульба. Налі мне крыху гэтай салянкі, то прынамсі будзе чым бульбу прахлiснуць.

**сутанець** — змяркаць. Ну, малышы, ідзіце ў хату, а то ўжо на двары сутанее. Цыганы палапаюць.

*(Паўднёвы Востраў, гміна Крынкі)*

(Працяг са стар. 1)

# КАБ І Ў БУДУЧЫМ ТАК!...

У сваім выступленні **М. Самоцік** падкрэсліў, што здабыткі літаратурнага руху — гэта адно з найбольшых дасягненняў нашай арганізацыі. Дзякуючы яму з беларускага асяроддзя выйшла не мала даравітых аўтараў і многа добрага зроблена на ніве роднай культуры. Творы „белавежцаў" маюць усё больш чытачоў, у мінулым 1977 годзе была прададзена рэкордная колькасць выданняў БГКТ на суму звыш 100 тысяч злотых. ГП БГКТ намерваецца адзначыць 20-годдзе „Белавежы" арганізацыяй урачыстага літаратурнага семінару. У садзеянні развіццю літаратурнай творчасці на беларускай мове, БГКТ знаходзіць падтрымку ў мясцовых і цэнтральных органах народнай улады.

Віншуючы з выдатнай гадавінай, З. Кыця сказаў, што творчасць членаў „Белавежы" ўносіць выдатны ўклад у культурнае жыццё Беласточчыны, спрыяе яго ажыўленню, усямерна заслугоўвае на высокую ацэнку і пашану. Па меры сваіх магчымасцей ваяводскія ўлады будуць ёй памагаць і падтрымоўваць яе.

Створаная пленумам камісія прапаноў у складзе **Н. Цыванюк** і **М. Гайдука** пад старшынствам **А. Баршчэўскага** на падставе даклада В. Шведа і выказванняў выступаючых у дыскусіі прадставіла сабраным праект пастановы, якая была зацверджана пленумам. У пастанове гаворыцца: у сувязі з тым, што дагэтуляшні напрамак дзейнасці „Белавежы" быў правільны, неабходна і ў далейшым развіваць такі ж яе кірунак; заахвочваць членаў „Белавежы" паказваць у сваёй творчасці дасягненні Народнай Польшчы, адкрытыя народнай уладай перад беларускай нацыянальнай меншасцю магчымасці ўсебаковага развіцця, прагрэсіўныя традыцыі беларускага народа, умацоўваць любоў да роднай мовы, пашыраць ідэю польска-беларускай дружбы; шырэй развіваць сувязі і супрацоўніцтва з польскім літаратурным асяроддзем у Беластоку і ва ўсёй краіне; павялічваць колькасць членаў „Белавежы", асабліва моладзі; аб'яўляць літаратурныя конкурсы на тэмы, звязаныя з дасягненнямі сацыялістычнага будаўніцтва ў Народнай Польшчы і дзейнасцю БГКТ; апрача семінараў літаратурнага аб'яднання праводзіць таксама літаратурную вучобу для малодшых творцаў; павялічваць колькасць і пашыраць абсяг аўтарскіх сустрэч „белавежцаў" з чытачамі; рабіць намаганні, каб выходзіла як мага болей зборнікаў твораў членаў „Белавежы", ствараць магчымасць нашым аўтарам уступаць у Саюз польскіх пісьменнікаў, імкнуцца заснаваць беларускую секцыю Саюза польскіх пісьменнікаў; прапанаваць іншым польскім выдавецтвам выдаваць творы членаў „Белавежы"; кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта запрапанаваць даследаваць беларускі літаратурны рух пры БГКТ у форме магістэрскіх прац, спецыяльных артыкулаў і г.д.; праўленне літаратурнага аб'яднання „Белавежы" павінна клапаціцца пра стварэнне сярод яго членаў атмасферы сяброўскай сардэчнасці, таварыскасці, супрацоўніцтва і згоды, бо толькі гэта будзе спрыяць высокаму ўзроўню іх творчасці і ўмацаванню пашаны ў асяроддзі.

**І. Снарскі**

## Кажуць, што...

*Піўны бар самаабслугоўвання адкрыўся ў Задрыпанцы. Абслугоўваючы сябе, наведвальнікі самі адлічваюць рэшту, самі наліваюць піва, самі разбаўляюць яго вадой.*



*Мікалай Багнюк улавіў хвілінку, каб праверыць спраўнасць свайго бульдозера.*

(Працяг са стар. 1)

## Калі вясна бушуе

кавой плаціны ад вёскі Баб'я Гара да Семяноўкі...

Прабіўшыся неяк аб'язнымі дарогамі (галоўны шлях цяжкія самазвалыператварылі ў бяздонную дрыгву), я сустракаю тут тэхніка **Эдварда Костку**, які працуе майстрам пры пабудове гэтай плаціны.

— Плаціна будзе даўжынёй амаль у два кіламетры і вышынёй у сярэднім тры з паловай метраў. На яе пабудову пойдзе больш 150 тысяч кубічных метраў зямлі, многа гліны і камення. Мы ўжо падрыхтавалі да гэтага сваю „капальню" пяску. Цяпер, як бачыце, будуем пад'язныя дарогі для цяжкіх транспартных машын. Перад тым, як пачаць узводзіць плаціну, неабходна зняць на тым месцы паўметра чорнай зямлі або торфу, так званага гумусу. Будзе яго не меней 50 тысяч кубічных метраў...

Вакол нас бойка ідзе ўкладка дарогі з салідных бетонных плітаў ад „капальні" пяску да будучай плаціны. Там жа, на сялянскіх паплаўцах працуе бульдозер, спіхвае гэты самы гумус і ачышчае месца пад плаціну. У гуле машын цяжка пачуць галасы людзей і зусім загубіліся ў ім ашалелыя ад напору вясны жаваранкі і кнігаўкі. А вясна бушуе, радуецца. Толькі на выгалках сярод воднай тапелі Нарвы абскубаныя зімовымі вятрамі шапкі абарогаў тырчаць на крывых сохах-нагах і з сумам пазіраюць з-пад брыва на гэты размах.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 1)

# ХТО МУЦІЦЬ ВАДУ?

✼

Бельск. Тут невялічкая рачулка Белая. Нясе яна ў два разы больш сцёкаў, як натуральнай вады.

Праўда, зараз у Бельску ўжо другі год будуюць гарадскую ачышчальню сцёкаў. Ёсць надзея, што ў Бельску становішча хутка палепшыцца.

✼

Горш у Гайнаўцы. Тут па рацэ Лясной Правай безупынку цячэ атрута. У рачулцы ў 2,8 раза больш едкіх сцёкаў, як вады. Перш за ўсё з камбіната хімічнай перапрацоўкі драўніны. Цячэ гэтая атрута ў Белавежскую пушчу. Разліваецца па лесе, па сенажаці, асабліва ў час веснавога паўнаводдзя або ў дажджлівую пару года. Ад гэтай атруты гіне лес. Некалькі дзесяткаў гектараў дрымучага лесу ўжо высахла.

Ачышчальня для хімічнага камбіната, планаваная на мінулы год, неяк выпала з плана.

✼

Сямяцічы. Тут рака Камянка, якая нясе свае воды ў Буг, а даліне Бугу ў планах турыстычнага загаспадарання Беласточчыны адводзіцца асаблівая роля.

Камянка, на жаль, ужо цяпер нясе толькі дзве часткі чыстай вады. Трэцюю частку састаўляюць неачышчаныя сцёкі.

Праўда, цяпер, разам з пабудовай фруктаперапрацоўчага камбіната „Гортэкс", ідзе ў Сямяцічах пабудова гарадской ачышчальні. Аднак тэмп гэтай пабудовы зусім слімачы. За мінулы год выканана ледзь чацвертая частка планаванай работы.

✼

Міхалова. Мясцовая малачарня пастаянна атручвае раку Супрасль. Здарылася нават, што кантралёры з Беластоцкага цэнтра даследавання і кантролю асяроддзя накіравалі справу на разгляд у пракуратуру. Аднак раённая пракуратура адказала, што рыба ў Супраслі падохла не ад міхалоўскіх сцёкаў, а ад таго, што ў той жа час падаў праліўны дождж і штучныя ўгнаенні сплылі з сенажацяў у раку. Значыць, вінавата вышэйшая сіла.

✼

Некаторыя кіраўнікі малачарняў афіцыйна звярталіся да ваяводы, каб вызначыць ім месцы, куды яны маюць выліваць сыроватку. Гайнаўская малачарня, не чакаючы ніякага дазволу, вывозіла кожныя суткі **дзесяць тысяч літраў** сыроваткі на гарадскі сметнік. У Лапах, здаралася, вылівалі гэтую атруту ў канаву.

Сыроватка становіцца атрутай, калі сапсуецца. А так гэта высакаякасны корм, перш за ўсё для свіней. Лягчэй, аднак, выліць яе абы-куды, чымсьці развезці па вёсках. Цяпер, калі мы ўсюды шукаем кармавых рэзерваў?..

✼

Многае залежыць ад людзей. Кантралёры сцвярджаюць, што на прадпрыемствах сочаць за сцёкамі найчасцей людзі, прафесіянальна дзеля гэтага непадрыхтаваныя. Адначасова Беластоцкая палітэхніка мае аддзяленне для падрыхтоўкі спецыялістаў па ахове асяроддзя. Толькі ў адрас гэтага аддзялення не паступіла аніводная заяўка з патрабаваннем спецыяліста, аніводнае прадпрыемства не накіравала туды фундаванай стыпендыі.

Што ж, дырэктары заняты перш за ўсё прадукцыйнымі планамі. Аб чыстай вадзе і паветры, аб жывой рыбе і зялёным лесе хай турбуюцца іншыя.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

**Беларуская літаратура** — **Аляксандар Баршчэўскі**

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА XXVII

Значная колькасць ваенных вершаў Бядулі прысвечана бежанству. Пісьменнік балюча перажывае факт прымусовага перасялення вялікіх чалавечых мас у новыя невядомыя раёны. Бежанская тэматыка выступае ў вершах „Ты слязамі і крыжамі...", „Сухавеі", „І будзе на палях трывожная работа...". Па сутнасці ва ўсіх гэтых творах паўтараюцца адны і тыя ж самыя карціны: шлях, значаны крыжамі, шнуры ўцякаючых, бяздомнасць бежанцаў, праявы голаду.

У вершы „Сухавеі" пісьменнік рысуе жудасную карціну вайны. Напамінае яна нейкую пачварную тэатральную дэкарацыю, напоўненую безупынным рухам і дынамікай знішчальных сіл. Магія непрыхільнай для чалавека ваеннай сітуацыі ўсе сілы свайго ўздзеяння кіруе супраць шэрых людзей — ахвяр вайны. Кідаецца ў вочы дыспрапорцыя сіл: вялікая моц ваеннага смерчу і бяссільнасць чалавека.

*Стрэлы, смерці адгалоскі —*
*Бежанцы брыдуць па вёсках.*
*Плуг сталёвы з'есць іржа,*
*А сялібу з'есць пажар.*
*Скачуць-плачуць сухавеі*
*Па шнурах ваўкі завылі,*
*У самотнай сумнай далі*
*Шмат магіл параскідалі.*
*Ходзіць голад па дарогах,*
*Гоніць пугай гурт убогіх.*
*І канца вайне няма.*
*Цэлы свет — адна турма.*

Характэрным прыёмам гэтага верша з'яўляецца адухаўленне такіх з'яў і паняццяў, як сухавеі, пажар, голад. Пісьменнік прыпісвае ім чалавечыя рысы: сухавеі — скачуць і плачуць, пажар — есць сялібы, голад — гоніць пугай убогіх. Дзякуючы такому прыёму стыхійныя з'явы становяцца яшчэ больш страшнымі. Дынамізацыя пагрозы звязана з тым, што стыхійныя сілы як бы здабываюць здольнасць свядомага, варожага чалавеку дзеяння.

Большасць ваенных вершаў Бядулі ўтрымана ў пацыфістычным духу. Аднак у некаторых з іх адчуваюцца праявы пісьменніцкага пратэсту. Не заўсёды ён выяўлены непасрэдна, часамі схаваны за іншасказальнасцю або за іранічным сарказмам. Прыкладам такога твора можа быць верш „І будзе на палях трывожная работа". У гэтым творы пратэсты яўныя пераплятаюцца з пратэстамі замаскаванымі. У вершы не называюцца прозвішчы або прафесіі вінаўнікаў вайны, аднак не можа быць сумненняў, што не належаць яны да народу, а да тых, хто стаіць па-над працоўнымі.

У ваенным цыкле знаходзяцца і такія вершы, якія з'яўляюцца ілюстрацыяй баёў або нейкіх іншых здарэнняў. Да такіх належаць вершы: „Ад крыві чырвонай", „Арліхі". Першы з гэтых твораў адносіцца да бітвы на Нёмане.

*Ад крыві чырвонай фарбаваўся*
*Нёман.*
*Гаціліся гаці з трупаў па вадзе.*
*Дзікі свіст і бразгат. І выццё і гоман.*
*Бітва, як ніколі... бітва, як нідзе...*

Можна пісьменніку зрабіць закід, што для ілюстрацыі сапраўды трагічнай з'явы падабраў занадта лёгкую, занадта скочную, амаль частушачную стылістыку верша. Верш гэты пазбаўлены прысутнасці аўтара, яго суджэнняў і ацэнак. Прадстаўлена ў ім толькі фатаграфія аднаго з драматычных эпізодаў вайны.

Верш „Арліхі" гэта ілюстрацыя двух варожых самалётаў, якія кідаюць у людзей свой смяротны груз. Аўтар паказвае паядынкі паміж самалётамі і безабароннымі людзьмі і паміж самалётамі і зянітнай артылерыяй. У пачатку выступае перавага самалётаў, але ў канцы артылерыя збівае адзін з іх.

Верш характарызуецца наватарскай формай паэтычнага радка. Розная даўжыня радка, свабодная рыфма і рытміка, значная колькасць пытальнікаў — усё гэта стварае новую, досыць нетыповую для Бядулі паэтычную структуру.

Ваенныя вершы Бядулі з'яўляюцца актам шчырага абурэння і шчырага спачування. Рэакцыя пісьменніка на вайну захоўвае вернасць прынцыпам дэмакратычным і гуманітарным.

Васіль Вітка

# Хто памагае сонцу

*У вясновы доўгі дзень*
*Так яно напрацавала,*
*Што зняможанае ў цень,*
*Дзе стаяла, там упала.*

*І праспала ўсю ноч*
*На балоце каля пушчы.*
*Рада ўстаць — не можа воч*
*Ні падняць і ні расплюшчыць.*

*Што рабіць і як тут быць —*
*Сонца беднае не знае.*
*Стаў пастух яму трубіць,*
*Бачыць —*
*не дапамагае.*

*Стаў ён выганяць кароў —*
*Ні адна не йдзе на пасту.*
*Між палёў, лугоў, бароў*
*Соннае пануе царства.*

*Не здагадваецца свет,*
*Што мінула ўлада ночы.*
*Дзеці снедалі ў абед,*
*Спалі —*
*колькі хто захоча.*

*І такі пайшоў бязлад,*
*Што не ўцяміць і старому.*
*Дзед прывёў унукаў ў сад,*
*Калі ўсе пайшлі дадому.*

*Мамы ў яслі малышоў*
*Валаклі пасля работы.*
*Тата ў магазін пайшоў,*
*Маміны абуўшы боты.*

*Вучні ўсталі, зноў ляглі,*
*Бо гадзіннікі стаялі,*
*Усё ж яны па сонцу йшлі,*
*Пеўні бестурботна спалі.*

*Зблыталася ўсё ў той дзень,*
*Не разблыталася б, мусіць,*
*Каб на вязе на гняздзе*
*Не прачнуўся стары бусел.*

*Выйшаў на шырокі двор,*
*Глянуў у прастор бясконцы.*
*Не знайшоў у небе зор,*
*А над забалацем — сонца.*

*Перадаўся буслаў страх*
*Ад суседа да суседа.*
*Махануў за птахам птах,*
*Прыляцелі ўсе да дзеда.*

*Кожны ведаў, што рабіць.*
*Глянулі з вяршыні вяза —*
*Бачаць, сонейка не спіць,*
*Сонейка ў дрыгве завязла.*

*Мітусня і валтузня*
*Не па ўласнай там ахвоце.*
*Б'ецца, беднае, паўдня,*
*Ледзьве бачнае ў чароце.*

*Прамень даў нырца — і ўсплыў*
*На лістку, як на далоньцы.*
*Падхапіліся буслы*
*Памагаць усходу сонца.*

*Падчапілі — паднялі!*
*Колькі сілы — глянуць люба:*
*Шар чырвоны па зямлі*
*Коцяць, аж мільгаюць дзюбы.*

*Выкацілі на грудок.*
*Пад нагамі прысак дыша.*
*Сонейка ступіла крок*
*І пайшло ўсё вышай, вышай...*

*Вось смяецца з неба нам,*
*Шле ласкавыя прамені,*
*А сябрам сваім буслам*
*З пакалення ў пакаленне*

*Кожнай раніцай яно*
*Дзякуе за дапамогу —*
*Не забыла, як вясной*
*Апалілі птушкі ногі,*

*А не кінулі ў бядзе*
*Аднаго з балотам біцца.*
*Болей сонца ўжо нідзе*
*Спаць у багну не лажыцца.*

*Знае, што яму рабіць,*
*Калі загадзя прачнецца.*
*Пастуху не варт трубіць —*
*Раніца ў свой час пачнецца.*

*Ведайце, сябры мае,*
*Добрую прывычку мае*
*Той, хто рана устае —*
*Сонейку дапамагае.*



(Працяг са стар. 3)

## ЗАПІСКА

ДАБРАНРАВАЎ *(пачуў)*. Як жа можа называцца дзяўчынка з чорнымі вачыма, задзертым носікам і значком на шчацэ? *(Паўза. Віталіку)*. А ты чаму хочаш быць доктарам Айбалітам?

ВІТАЛІК. Людзі самі могуць сабе купіць лякарства, мазі там усялякія. А сабакі... наогул жывёла, яна бездапаможная. Нават градуснік сабе паставіць не можа.

ДАБРАНРАВАЎ. У тваіх меркаваннях ёсць логіка, Віталік. Як табе здаецца, Рыгорка, га?

НІНА *(да Любы, якая сядзіць з ёй побач, як і Зося, але з другога боку)*. Ты казала яму, як каго завуць?

ЛЮБА. Тс... *(Нагнуўшыся да Ніны, ціха)*. І не думала.

ДАБРАНРАВАЎ. Чаго маўчыш, Рыгорка? У цябе ёсць сабака па мянушцы Космас, ты ведаеш яго павадкі.

КЛАВА *(падавіўшыся пірагом)*. Вы і пра Рыгоркавага Космаса ведаеце... Адкуль вы ўсё ведаеце?

ДАБРАНРАВАЎ *(вельмі сур'ёзна)*. Таму што я лекар.

ЗОСЯ. Ну і што?

ЛЮБА *(Зосі)*. Колькі разоў казала табе — не нукай.

ДАБРАНРАВАЎ *(Зосі)*. А тое. *(Пасля паўзы)*. Вось, увіце, ты, Ніна, скончыла школу, паступіла ў медыцынскую акадэмію. Але вось вучоба закончана, ты працуеш лекарам, прыкладна, ужо дзесяць гадоў.

КЛАВА *(жуючы пірог)*. Ого!

ДАБРАНРАВАЎ *(працягвае)*. У

(Працяг на стар. 6)





# НЕ марнуйце кветак!

Прыйшла вясна з яе асляпляльна цудоўным сонцам, з мілай сэрцу зелянінай, з першымі веснавымі кветкамі.

Няма чалавека, нячулага на праявы вясны. Адных больш узрушае прылёт буслоў ці спеў жаваранкаў, іншыя цешацца сонечнымі праменнямі, а многія проста зачараваны тым, як старанна і ўпарта выбіваюцца на веснавы свет маладзенькія травінкі.

Усё нас цешыць гэтай парою. Часцей, чым раней, мы выходзім на луг, вандруем у лес, каб нацешыць душу і вока.

Сапраўдную роскаш даюць нам першыя веснавыя кветкі. Колькі ў іх вясны, свежасці, радасці, колькі далікатнасці ў іх і гармоніі!

Нічога дзіўнага, што кожнаму з нас хочацца наблізіць да сябе гэты цуд, прытрымаць яго пры сабе, нават занесці дадому. Але ці падумалі вы, што з тымі кветкамі станецца за гадзіну? Іх проста ўжо не будзе — высахнуць, змарнуюцца, таму што веснавыя кветкі вельмі далікатныя і нетрывалыя, сарваныя і нават пастаўленыя ў ваду.

Таму сёння наш „зорчын“ лозунг: „Не марнуйце кветак!“

А каб усе аб гэтым ведалі, памяталі, прапаную зрабіць газетку пад загалоўкам „Ахоўвай веснавыя кветкі“. У газетку прапаную змясціць малюнкі веснавых кветак і такі лозунг:

*„Бачыш многа кветак — не рві.*
*Бачыш мала кветак — беражы.*
*Не бачыш кветак — пасадзі.“*

Прыгожа зробленыя газеткі павесьце ў школьнай вітрыне або на дошцы, а потым запрасіце „Зорку“, каб прыехала паглядзець. Найлепшыя газеткі будуць узнагароджаны і аб іх напішам у „Зорку“.

**„Зорка“**

## АДГАДАНКА



Да бензакалонкі вядзе толькі адна дарога. Знайдзі яе.





Калектыў школьнага самакіравання з Орлі разам з настаўнікам А. Мартыновічам. Фота М. Шаховіча.

№ 20 (1083) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 14.V.1978 г.

# І крыху пра нас

У кніжных магазінах нядаўна паявілася аб'ёмістая (звыш 630 старонак друку вялікага фармату) кніжка пад загалоўкам „Польшча“. Гэта ўсебаковы даведнік энцыклапедычнага характару аб мінулым і сучасных праблемах нашай краіны. Адкрывае яе раздзел, у якім знойдзем гісторыю і сучасны выгляд нашага герба, сцяга і гімна, дзе паказаны ордэны і медалі Польскай Народнай Рэспублікі. Затым 75 старонак адводзіцца гісторыі — ад праславяншчыны да 1976 года.

Асобна да кніжкі дабаўлены статыстычны даведнік за 1976 год, у якім знаходзім найважнейшыя паказчыкі грамадска-гаспадарчага развіцця нашай краіны. Для прыкладу: у апошні дзень 1976 года жыло нас у Польшчы 34,5 мільёна чалавек, з чаго ў вёсках толькі 15 мільёнаў асоб, значыць 43,5 працэнта ўсяго насельніцтва. Самым вялікім горадам з'яўляецца наша сталіца. Варшава налічвала пад канец 1976 года 1.463.400 асоб. Другое месца па колькасці жыхароў займае ў нас Лодзь — 810 тысяч, затым Кракаў — 700,7 тыс., Вроцлаў — 584,5 тыс., Познань — 527 тыс., Гданьск — 434 тыс.

Праелі мы ўсе разам звыш 300 мільярдаў злотых, прапілі звыш 100 мільярдаў, пусцілі з папяросным дымам амаль 22 мільярды залатовак. Дзяржаўная прамысловасць выпусціла ў 1976 годзе амаль 60 тысяч новых трактароў, 216 тысяч легкавых аўтамабіляў.

Другі раздзел кніжкі характарызуе нашу краіну, яе месца ў Еўропе, тэрыторыю, дзяржаўныя межы, геаграфічна-геалагічныя асаблівасці, клімат, раслінны і звярыны свет, глебу і насельніцтва.

Наступны раздзел мае загаловак „Грамадства“. Напісаў яго вядомы польскі вучоны, аўтар шматлікіх навуковых апрацовак па сацыялогіі — **Ежы Вятр.**

Аўтар адводзіць крыху ўвагі і нам — беларусам (ды не толькі беларусам), пражываючым у ПНР. Дае ён пералік меншасных грамадска-культурных таварыстваў, іх газетных органаў, у тым ліку называе і нашу „Ніву“, успамінае пра навучанне дзяцей на родных для іх мовах і адзначае, згодна з праўдай, што (стар. 145) „нацыянальныя меншасці ў Польшчы маюць усебаковыя магчымасці дзеля захавання і развіцця культурнага жыцця. Дзяржава ўсялякімі спосабамі падтрымоўвае гэтую дзейнасць, адводзіць на яе шматзначныя фінансавыя сродкі“.

Ежы Вятр агульную колькасць няпольскага насельніцтва ў Польшчы ацэньвае прыблізна на 450 тысяч чалавек, што састаўляе няпоўных 1,3 працэнта ўсяго насельніцтва. Таму, сцвярджае аўтар (стар. 144), „Польшча належыць да найбольш аднародных у нацыянальных адносінах краін у Еўропе“. Маркуе ён, што ў будучыні, межаў якой не вызначае, нацыянальныя меншасці ў Польшчы чакае поўная асіміляцыя з польскім народам. „Працэс гэты, — адзначае, — праходзіць аднак ва ўмовах поўнай свабоды выбару прыналежнасці, без якога-колеч націску ці заахвочвання з боку дзяржавы“.

Ёсць у гэтай кніжцы яшчэ 12 іншых раздзелаў. Кніжка багата ілюстравана. Ёсць карта з новым адміністрацыйным падзелам, ёсць шмат усебаковай інфармацыі, асабліва неабходнай вучням.

Гэта другое, але поўнасцю перапрацаванае выданне. Першае паявілася з нагоды 30-годдзя ПНР. Для замежных чытачоў варта ведаць, што кніжка перакладзена адразу на англійскую, нямецкую, французскую мовы.

**В. Рудчык**

# БАБУЛЬЧЫНЫ РАДАСЦІ І ГОРА

Старэнькая, крытая саломай, хацінка ветліва прымае ў свае парогі. Усюды чысценька прыбрана. Відаць дбайная жаночая рука. Галена Шымчук, паставіўшы ў куточку свой кіёчак, прысела на ложак адпачыць. Змучылася старэнькая.

— Частуйцеся яблыкамі, — працягвае яна кошычак, — толькі што з Нурца вось вярнулася. Купіла сёе-тое. От прыйдуць часамі людзі пасядзець, пагаварыць, дык хоць пачаставаць будзе чым.

З Шымак у Нурэц 2 кіламетры, так прынамсі напісана на дарожным паказальніку. Недалёка, але на 82-гадовыя ногі не так ужо і лёгка. 82 гады пражыла Галена Шымчук у Шымках. Тут радзілася, пад гэтай саламянай страхой яе шчасце і гора. 6 год таму назад памёр муж. Засталася адна-адзінюсенькая. Дзяцей у іх не было. Па мужу засталася толькі 4-гектаровая гаспадарка, хацінка, хлявок і стадола. Усё яны гэта нажывалі разам. Галена Шымчук была ўжо застарая, каб абрабляць гаспадарку. Тут трэба сіл і здароўя. І гаспадаркай заняліся сваякі. Плацілі падаткі, дапамагалі бабульцы.

— Добрыя людзі. Не крыўдзяць яны мяне, не скажу, — гаворыць старэнькая. — Хто малако прынясе, хто булачку, хто кансерву. Прыйдуць, дапамогуць, дроў нарубаюць.

Засакаталі куры. Старэнькая паднялася. Карміць трэба. Не можа яна жыць без працы. Хаця дзесяць курак, але гадуе. Заўсёды гэта нейкі занятак. Выходзім на панадворак. Спаглядае Галена Шымчук на сваю стадолу і цяжка ўздыхае. У вачах паяўляюцца слёзы. Крыўдна старой. Ашукалі. Пяць тысяч за такую



стадолу. Крэпкая, дрэва амаль звініць.

— А ці ж я там ведала? Падсунулі падпісаць нейкую паперку, дык я і падпісала. Мясцовыя ж людзі. Ці ж падумала, што нешта круціць будуць?..

Накарміўшы курэй, ізноў вяртаецца ў хату. Сумнавата адной. Але яе не пакідаюць. Часта нехта з мясцовых наведае. Часам жанчыны збяруцца, паспяваюць, пагавораць.

На стале ляжыць некалькі апошніх нумароў „Нівы“, кнігі.

— Чытаеце?

— Так, вельмі люблю чытаць. Усё роўна, як бы з некім гаварыла, — і бабулька быццам бы ў адказ адкрывае кнігу. Чытае без акуляраў.

— Не маеце часамі апошняй „Нівы“? — пытае.

Толькі ў машыне прыпамінаю, што маю з сабой „Ніву“. Застромліваю яе за клямку дзвярэй старой хаціны. Чытайце... Машына ад'ехала. Даўно мінулі Нурэц, Боцькі, Бельск, а ў сэрцы нейк дзіўна казытча. Думаю пра бабульку, пра яе адзінокае жыццё і пра тое, як добра, што ёсць яшчэ людзі, якія клапоцяцца пра другіх.

**Міхась Шаховіч**

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

**ВЯСНЯНКА**
**(„Огулька“)**




*Ой, гыля, гыля, гусі на воду —*
*гаворат людзі на маю ўроду.*
*Ніхай гаворат — Бог ім заплаціт,*
*а мае ўроды ніхто ні страціт.*
*Хоць я страціла — такая была,*
*а мая ўрода такая жыва!*

Ад Аляксандры Бонкард, 1909 года нараджэння, вёска Стачок каля Нараўкі, запісаў 6 сакавіка 1978 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі — Людмілы Панько.

# ДОБРА СЛУЖЫЦЬ ВЁСЦЫ

Беластоцкая Ваяводская спулдзельня вясковага транспарту мае дзесяць аддзяленняў. Да найлепш працуючых належаць аддзяленні ў Бельску і Гайнаўцы.

У Бельску дырэктарам аддзялення СТВ з'яўляецца Францішак Вінскі. Кіруе ён працай 200-асабовага рабочага калектыву. Бельская ўстанова мае больш 120 самаходаў рознага прызначэння. Абслугоўвае яна Гмінныя спулдзельні „Самапомач хлопска“ ў Вышках, Боцьках, Бранску, Бельску і Орлі. Самаходы СТВ забіраюць малако з 115 пунктаў скупкі, у тым ліку не толькі з Бельшчыны, але таксама з гмінаў Сямяцічы, Лапы, Высокае Мазавецкае. Дастаўляюць каля 400 тысяч літраў на малочнае прадпрыемства ў Бельску, а малочныя вырабы ў больш паўтары сотні крамаў. Возяць яны ў вясковыя крамы спажывецкія прадукты і газіраваныя напіткі, кармавыя мяшанкі і розныя тэхнічныя прылады для сельскагаспадарчай прадукцыі. Возяць таксама збожжа, гародніну, свіней і быдла з далёкіх вёсак на пункты скупкі. Шафёры добра выконваюць свае абавязкі. Занялі яны першае месца ў спаборніцтве аддзяленняў СТВ. А праца ў іх нялёгкая. Ездзіць даводзіцца па дрэнных або неачышчаных ад снегу дарогах, у непагадзь або вялікі мароз. На ўхабістых дарогах псуюцца самаходы, не выкарыстоўваюцца грузавыя прычэпы.

Бельскае аддзяленне з году ў год паляпшае свае ўмовы працы. Цяпер будуе коштам 33 мільёнаў злотых рамонтную майстэрню на 18 каналаў. У ліпені гэтага года спулдзельня атрымае новае дэпо.

Найбольш заслужанымі людзьмі для бельскага аддзялення СТВ з'яўляюцца: Мечыслаў Маліноўскі, Ян Пучко, Мікалай Федаровіч, Станіслаў Місюк, Вацлаў Папроцкі, Уладзімір Казак, Вацлаў Алешка, Геранім Станскі і Кастусь Маліноўскі.

У Гайнаўцы крыху меншым ад бельскага аддзяленнем кіруе дырэктар Сцяпан Васілюк. У яго напалавіну менш людзей. Калі ў Бельску шафёры штодзень перавозяць у сярэднім 1 400 тон тавараў, дык у Гайнаўцы каля 600 тон. Прывозяць яны на малочнае прадпрыемства 75 тысяч літраў малака з 85 вясковых злеўняў і малочныя прадукты развозяць у 177 пунктаў продажу, у тым ліку ў крамы, школы, яслі, прадшколлі, бальніцы, сталовыя. Аддзяленне СТВ абслугоўвае шэсць ГСаў у Гайнаўцы, Нараўцы, Нарве, Белавежы, Кляшчэлях і Мілейчыцах.

Гайнаўскі транспартны кааператыў мае сваю ўласную рамонтную майстэрню. У гэтым годзе будзе яна мадэрнізавэна коштам каля 5 мільёнаў злотых. Будзе адноўлена абсталяванне для рамонту і мыцця самаходаў, сталовая, лакерня.

Найлепшымі работнікамі з'яўляюцца: Лявон Пракапюк, Ян Салавянюк, Аляксандр Ігнацюк, Юзэф Шчыгельскі, Рыгор Мішчук, Ян Савіцкі, Ніна Сяроцкая, Юры Семянюк, Аркадзь Лукашэвіч, Сцяпан Гаўрыльчык, Раіса Рэдух, Мікалай Федарук і іншыя.

Шмат цёплых слоў можна сказаць пра механікаў. Яны самі рамантуюць самаходы амаль у цэласці, а таксама выконваюць аднаўленне некаторых частак.

Аддзяленне СТВ у Гайнаўцы выконвае шырокі асартымент паслуг для сялян. Сваімі сродкамі транспарту дастаўляе паліва, будаўнічыя матэрыялы. За 360 тысяч злотых у год.

Спамянутыя аддзяленні вельмі задбаныя. Усюды чысціня і парадак, добра ўпарадкаваны машынны парк. Ля адміністрацыйных будынкаў табліцы за шклом з фотаздымкамі перадавых рабочых, лозунгі. Яны могуць быць узорам для іншых устаноў.

Узорна дзейнічаюць арганізацыі: ПАРП і ЗСЛ, а таксама ПЧК. У бельскім аддзяленні членамі ПАРП з'яўляецца больш 40 асоб.

Варта дадаць, што дзякуючы ініцыятыве прыязнага для нас старшыні праўлення Ваяводскай спулдзельні вясковага транспарту ў Беластоку А. Гузоўскага аддзяленні СТВ будуць пастаяннымі падпісчыкамі на „Ніву“.

**Я. Целушэцкі**

# ГМІННЫЯ НАВІНЫ

## МНОГА АКТЫЎНЫХ ГУРТКОЎ

У Гайнаўскай гміне ёсць многа актыўных гурткоў вясковых гаспадынь.

Зімою жанчыны вучыліся ў школах грамадска-палітычных ведаў, на курсах на званне кваліфікаванага гаспадара і найбольш настойлівыя закончылі іх. У зімова-асенні перыяд кабеты з Трывежы, Новага Беразова і Дубін арганізавалі вяндлінярскі курс. Удзельнічала ў занятках 115 асоб.

Ва ўсіх гуртках вельмі ўрачыста праходзіць святкаванне Міжнароднага дня жанчын.

Дзесяць КГВ кожны год удзельнічае ў конкурсах „Больш малака высокай якасці!“ і „Больш фруктаў, агародніны і кветак!“. Зараз у кожнай большай вёсцы жанчыны вырошчваюць раннюю гародніну ў інспектах і пад фальгою.

У гэтым годзе летняй парою дзяцінцы будуць арганізаваны ў Арэшкаве (тут яны праходзяць найлепш), Дубінах, Барысаўцы, Новым Беразове, Навасадах і Махнатым.

У гміне найлепш працуюць гурткі вясковых гаспадынь у Трывежы, Новым Беразове, Махнатым, Дубінах, Хітрай і інш.

У заканчэнні дадамо, што ГСу ў Гайнаўцы не хапае часу на тое, каб зацікавіцца працай КГВ. Адкрыў ён цэнтр „Сучасная гаспадыня“ ў Новым Беразове і больш увагі не ўдзяляе. Цэнтр скупавата абсталяваны. ГС не паддае штуршка да больш плённай працы новаберазоўскім гаспадыням. **(ця)**

## I SANTO CALIFORNIA



**Фота па заказу**

**Заказвалі:** Данута Янчарэк з Фальваркаў Тыльвіцкіх і Крыся з Бельска.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Пасля разводу былыя муж і жонка падзялілі маёмасць. Пры гэтым суд падзяліў паміж імі кааператыўную кватэру, прызнаючы ім па адным пакоі з супольным карыстаннем кухні. Пасля разводу, але перад падзелам маёмасці былы муж уплаціў кааператыву як апошнюю частку пая — 10 тысяч злотых і ён плаціў штомесячную плату за кватэру. Ці можа ён дамагацца ад былой жонкі звароту паловы ўплачаных ім грошай і каб яна ў будучыні плаціла за карыстанне з памяшкання?

АДКАЗ. Пасля таго, калі рашэнне суда аб разводзе стала правамоцным, спыняецца паміж былым мужам і жонкай маёмасная супольнасць. Калі, напрыклад, адзін з іх набывае маёмасць, то яна з'яўляецца выключна яго ўласнасцю, а не ўваходзіць у супольную маёмасць. Таксама калі адзін з іх робіць выдаткі на супольную маёмасць, можа патрабаваць ад другога разлічэння. Аднак, усе гэткія разлічэнні павінны быць зроблены ў час падзелу маёмасці. Закон прадугледжвае, што пасля таго, калі пастанова суда аб падзеле маёмасці стала правамоцнай, удзельнікі працэсу не могуць дамагацца ўзаемна разлічэнняў, звязаных з супольнай уласнасцю. Таму, калі былы муж у часе судавядзення ў справе аб падзеле супольнай уласнасці не дабіваўся разлічэння, нельга гэтага зрабіць у асобным працэсе. Можа ён толькі патрабаваць, каб пасля падзелу кватэры былая жонка плаціла за карыстанне ёю.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Жыву я ў горадзе. Аднойчы паехала да сяброўкі на вёску. Там была забава. На гэтай забаве пазнаёмілася я з Валодзем і прагуляла з ім цэлы вечар. Ён працуе ў тым горадзе, дзе я жыву. Мы з ім пачалі спатыкацца. Мне ён вельмі спадабаўся. Валодзя не піў і не курыў. Гаварыў, што вельмі мяне кахае і ніколі не пакіне. Але вось аднойчы, калі Валодзя сядзеў у мяне дома, да мяне прыйшоў сябра са школы. Валодзя сказаў, што гэта напэўна мой хлопец, што бачыў мяне з ім няраз. І больш я Валодзі не ўбачыла. Вельмі цяжка я ўсё гэта перажыла. Праз некалькі месяцаў я пазнаёмілася з Юркам. Аднойчы пайшлі мы ў кіно і там я ўбачыла Валодзю. Ён увесь час на мяне пазіраў. Ад гэтага часу я ўвесь час думаю пра Валодзю. І вось аднойчы прыйшоў Валодзя да мяне дадому. Прасіў прабачэння і прасіў, каб вярнулася да яго. Я надалей яго кахаю. Дык прашу, Сэрцайка, парай, ці вярнуцца мне да яго?

Ірка з Бельшчыны

Ірка! Бачыш, найлепшы спосаб вярнуць хлопца — дык паказацца перад ім з іншым. Вось як хутка пасля таго Валодзя да цябе прыпёр. Зайздросны — а гэта ж прызнак кахання. Толькі мусіць быць і зайздрасць умераная, бо ўжо было б недарэчнасцю, каб школьны сябра не мог зайсці да цябе. Валодзя, відаць, зразумеў сваю памылку, калі перапрасіў... І ты, паколькі ж кахаеш Валодзю, напэўна не зможаш не прабачыць яму гэтага. Дык усяго добрага!

**Сэрцайка**

## Вер-не-вер

Мне, Астроне, прысніліся два даволі страшныя сны. У першым мне здалося, што я паміраў. І вось кладуць мяне ў труну (я яе не бачыў, але ведаў цвёрда, што мяне кладуць менавіта ў труну) і закрываюць, і ўжо я амаль нічога не бачу, толькі засталася малюсенькая шчылінка... Ты ж, Астроне, зразумей мяне, мне ўсяго 30 год!

У другім сне мне снілася, што я лавіў рыбу. Налавіў яе ўжо шмат і засталася толькі адна вялікая рыбіна. Я выхапіў нож і ўсадзіў яго ў гэту рыбіну. І так я злавіў усю рыбу. Ці гэтыя мае сны не прадвяшчаюць нейкай хваробы?

Валодзя з Д.-Ц.

Астроне, ніколі ў жыцці мне не сніліся авечкі. Нават тады, калі на вёсцы жыла і няраз жа і пасвіць іх даводзілася. Я ўжо жыву ў Беластоку больш як дваццаць гадоў, і раптам сніцца, што мы з братовай (яна таксама жыве ў Беластоку) гонім стада авечак. У цэнтры горада! Што можа абазначаць гэты сон?

Марыся

**Валодзя з Д.-Ц.!** Чакае цябе доўгае і здаровае жыццё, а паколькі ты малады, дык можа нават і вяселле, ад якога ты, здаецца, хочаш выкруціцца (бо тая шчылінка!) Тое, што лавіў ты рыбу, абазначае нейкі прыбытак у сувязі з цяжкой тваёй працай. Вынікне пры гэтым аднак сварка і непрыемнасці (твой нож!).

**Марыся!** Авечкі, якіх вы гналі, абазначаюць вялікі поспех у справах тваіх і тваёй братовай.

**Астрон**



*Фота Міхася Шаховіча.*

## Куток практычных ведаў

**Як зварыш, так і з'ясі**

### СТРАВЫ З АЎСЯНКІ

Аўсяныя камякі належаць да вельмі каштоўных прадуктаў. Галоўную іх масу складаюць вугляводы. У аўсянцы знаходзіцца таксама шмат бялка і, хаця гэты бялок раслінны і няпоўнавартасны, то спалучаючы аўсянку з малаком, мясным соусам ці яечкамі, можна дапоўніць іх нехапаючымі амінаквасамі. Аўсяныя камякі маюць у сабе шмат тлушчу, таму неабходна перахоўваць іх у халодным і цёмным месцы, інакш тлушч можа з'ялчэць. У аўсяных камяках знаходзіцца таксама шмат вітамінаў $B_1$, $B_2$, PP, а таксама кальцый, фосфар і жалеза.

### КЛЁЦКІ З АЎСЯНЫХ КАМЯКОЎ

На 20 дэкаў аўсяных камякоў (платкаў), узяць шклянку вады, шклянку малака, лыжку тлушчу, 2 яечкі, лыжку мукі, соль, лыжку зеляніны і тлушч для паліванне.

На некалькі мінут перад падрыхтоўкай стравы, усыпаць аўсяныя камякі ў міску і заліць адмеранай кольнасцю летняй вады. Закіпяціць малако і дадаць у яго намочаныя камякі, памешваючы варыць, пакуль не расклеяцца. Камякі, знятыя з агню, астудзіць крыху памешваючы, дадаць тлушч, яечкі і дакладна вымесіць драўлянай лыжкай. Пасля гэтага дадаць муку і зеляніну і яшчэ раз усё разам вымяшаць. З падрыхтаванага такім чынам цеста рабіць не надта вялікія клёцкі, кладучы іх у гарачую пасоленую ваду пры дапамозе лыжкі, кожны раз намочанай у вадзе. Пасля таго, як клёцкі зварацца, адцадзіць іх і паліць тлушчам. Каб палепшыць смак клёцак, можна іх зверху яшчэ пасыпаць цёртым галандскім сырам.

### АЛАДКІ З АЎСЯНЫХ КАМЯКОЎ

На 30 дэкаў аўсяных камякоў узяць паўтары шклянкі вады, паўтары шклянкі малака, соль, лыжку тлушчу, 3 яечкі, лыжку мукі, чайную лыжачку цукру, тлушч для смажэння, цукровую пудру для пасыпання.

Аўсяныя камякі заліць на некалькі мінут летняй вадою, а пасля гэтага дадаць да гарачага малака і памешваючы расклеіць. Да крыху астуджанай масы дадаць сцертыя з тлушчам жаўткі, вымяшаць, пасля збіць пену з бялкоў, і, пасыпаючы пену мукой, вымяшаць з камякамі. Класці лыжкай на разагрэты на патэльні тлушч не надта тоўстыя аладкі і смажыць на не надта вялікім агні, каб добра прасмажыліся ў сярэдзіне, а не прыгаралі. Аладкі падаваць пасыпаныя цукрам, а яшчэ лепш палітыя соусам з тваражку і пасыпаныя цукрам.

**Гаспадыня**

А. ВОІНАЎ



## КАМЕН-ДАНЦКАЯ ГАДЗІНА

ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

Кожны нёс з сабой тое, што змог дастаць: вядро, кубкі, бутэлькі, каццялкі, біклагі, каскі, бочкі, нават паношаныя боты з высокімі халявамі. Найбольш здагадлівыя прыцягнулі ў кішэнях і закуску.

Набраўшы спірту, салдаты размясціліся на баржы і на прычале. Потым, калі там ужо стала цесна, пачалі размяшчацца на беразе.

— Румынаў, румынаў не хапае! — сказаў Міша.

— Пачакай, з'явяцца і румыны! — адказаў Ткачэвіч.

І сапраўды, хутка з'явіліся і румынскія салдаты. Яны асцярожна прабіраліся ўздоўж берага з вёдрамі ў руках. Вось яны спыніліся непадалёк, напэўна, для таго, каб абмеркаваць, як ім дзейнічаць. Яны, вядома, разумелі, што немцы радасна іх не прымуць.

Але праз хвіліну ўжо, напэўна, вырашыўшы ісці на штурм, румыны сарваліся з месца і бягом кінуліся да прычала, змяшаліся з натоўпам і, дзейнічаючы локцямі, пачалі прабівацца да баржы. Але ім удалося пераадолець не больш як трэць адлегласці. Немцы хутка зразумелі іх намер. У натоўпе пачалася бойка, на бераг паляцелі вёдры, і румыны, лаячыся, кінуліся ў той бок, адкуль з'явіліся.

— За падмацаваннем пабеглі, — сказаў Ткачэвіч і не памыліўся.

Казармы салдат аховы порта знаходзіліся непадалёк. Не прайшло і дзесяці хвілін, як з розных бакоў да прычала пачалі набліжацца групы румын. Адны трымалі ў руках самы разнастайны посуд, другія — аўтаматы.

Справа, як было відаць, набывала сур'ёзны паварот. Афіцэры, якія прыбеглі, стараліся супакоіць салдат і ўстанавіць парадак. Але спірт так узняў баявы дух немцаў, што яны цвёрда вырашылі ўтрымліваць свае пазіцыі.

— Час нам адсюль пайсці, — сказаў Ткачэвіч. — Хто ведае, у які бок цяпер паляцяць кулі. Мы вельмі прыкметная мішэнь!

Ён саскочыў са скрыні, Міша за ім. Далей адыходзіць ім ужо давялося пад акампанемент перастрэлкі. Здалёк яны назіралі, як румыны кідаліся ў атаку, немцы сустрэлі іх каменнем, і пачалася бойка.

Пакуль ваенныя ўлады наводзілі парадак, караблі, якім ужо даўно час быў пакінуць порт, працягвалі стаяць ля прыстаней.

Вось бы зараз іх разбамбіць!..

Вечарам група сабралася, каб зноў абмеркаваць пытанне пра Ткачэвіча. І на гэты раз усе аднадушна згадзіліся з Мішам. Бо гісторыя са спіртам толькі на першы погляд здавалася забаўнай. Сярод салдат былі забітыя і раненыя. Калі б гестапа дакапалася да таго, хто сапраўдныя віноўнікі гэтай весялосці, яны неадкладна расстралялі б не толькі Мішу, але і Ткачэвіча.

Аднак работа паралізавана. Рацыя працягвала маўчаць. З часу апошняй перадачы прайшлі ўжо два тыдні.

Міша настойліва працягваў пошукі батарэі. Ён знайшоў нямецкага марака, які некалі абяцаў яму дастаць батарэйкі для кішэннага ліхтарыка, і прапанаваў купіць іх па зусім даступнай цане.

Яны адразу ж пайшлі на прыстань. Марак падняўся на борт карабля і вярнуўся з цяжкім мехам. Скрозь брызент былі бачны вуглы вялікіх батарэй.

Міша забраўся ў далёкі куток склада, развязаў мех і дастаў адну з батарэй з яркай нямецкай этыкеткай. Каб выкарыстаць батарэю для кішэннага ліхтарыка, яе трэба будзе разламаць на паасобныя элементы. Але для рацыі падыдуць некалькі такіх паслядоўна злучаных батарэй. Але як жа вынесці іх з тэрыторыі порта? Калі пры выхадзе затрымаюць, тут жа арыштуюць за крадзеж ваеннай маёмасці, і тады ўсё!

Значыць, праз цэнтральную прахадную порта ісці нельга.

Можа накіравацца ў бок Пярасыпі і выйсці з порта ў вароты Чыжыкава? Гэты шлях значна даўжэйшы, і трэба прайсці шэсць або сем пастоў, але затое больш шанцаў, што не будуць абшукваць.

Як высветлілася, часам карысна мець дзіравыя кішэні!.. Нават востры позірк вартавых не заўважыў, што чалавек, які ў гэты халодны дзень ішоў, паставіўшы каўнер паліто і глыбока засунуўшы рукі ў кішэні, нясе пад крысом паліто цяжкія батарэі.

Калі Міша праходзіў міма трэцяга па ліку паста, яго раптам паклікаў румынскі вартавы.

— Ты хто? — строга спытаў ён і, напэўна падрыхтаваўся да допыту.

— Я — турак! — Міша і сам здзівіўся нечаканаму адказу, які прыйшоў яму ў галаву.

На яго шчасце, вартавы быў не без гумару.

— Не турак, а дурань! — засмяяўся і махнуў рукой. — Праходзь!

У гэты вечар у маленькім пакойчыку на Граданачальніцкай вуліцы было вялікае свята: рацыя ажыла зноў. Ва ўсіх было такое пачуццё, быццам іх цяжкахворы сябар, аб якім яны так смуткавалі, раптам адразу паправіўся.

Надзя ледзь дачакалася часу, калі па раскладу павінна была выходзіць на сувязь.

Штаб арміі адразу ж адгукнуўся. І ў эфір паляцелі пазыўныя групы „Ада“...

(Працяг будзе)

# ТРЫБУНА чытачоў

## ДЗВЕ ЦІКАВЫЯ СУСТРЭЧЫ

Вельмі частыя госці ў нашай школе — Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску з'яўляюцца прадстаўнікі Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку. Старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік быў у нас, калі пачынаўся навучальны год. Бываюць у нас людзі на заканчэнне навучальнага года і пры многіх іншых нагодах.

У апошні час у красавіку былі ў нас старшыня М. Самоцік, інспектар С. Трафімюк, інструктары ГП. Яны прыехалі на сустрэчу з вучнямі. На сустрэчы гаварылі пра актыўны ўдзел моладзі нашага ліцэя ў працы гурткоў Беларускага таварыства. Вучні ў сваю чаргу расказвалі пра гурткі таварыства ў вёсках, з якіх яны родам. Гаварылі, што, напрыклад, у Боцьках ці Мельніку няма гурткоў таварыства, а вучні хацелі б належаць да БГКТ.

Старшыня М. Самоцік вельмі дакладна паінфармаваў усіх зацікаўленых аб арганізацыі і формах яе працы ў асяроддзі. Вельмі зацікавілі моладзь багатыя формы культурнай дзейнасці БГКТ. Асабліва шырокая літаратурная дзейнасць. Многія нашы вучні добра ведаюць творы Барскага, Чыквіна, Шведа, Яновіча, Шаховіча, а многія і самі прабуюць сваіх сіл у мастацкай і літаратурнай дзейнасці. Таму сустрэчы з літаратарамі для нашай моладзі такія важныя.

Школьны інспектар С. Трафімюк падкрэсліў вялікія заслугі БГКТ у развіцці асветы на роднай мове.

Вельмі аптымістычна закончылася сустрэча: аж 98 вучняў склалі дэкларацыі прыналежнасці да БГКТ. Усім ахвотным не хапіла нават дэкларацый. Абяцалі нам прыслаць дэкларацыі ў школу.

*

На другі дзень прыехаў у нашу школу вельмі мілы госць д-р Аляксандр Баршчэўскі, кіраўнік кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, вядомы паэт. Але цяпер наш госць прыехаў, не каб чытаць свае цудоўныя вершы, а каб пагутарыць з матурыстамі, заахвоціць стаць студэнтамі беларускай філалогіі.

Вучні, якія думаюць паступіць на гэтае аддзяленне, сабраліся ў кабінеце беларускай мовы. Было аж 23 чацвертакласнікі. Доктар Баршчэўскі вельмі цікава расказваў пра ўмовы жыцця і вучобы на беларускай філалогіі. Між іншым, цікавы факт, што гэтае аддзяленне канчае найбольшы ва ўсёй Польшчы працэнт студэнтаў, якія вучобу пачынаюць. У некаторыя гады ён раўняецца 100 працэнтам. На добрыя вынікі ў навучанні мае вялікі ўплыў і тое, што на аддзяленні вельмі прыемная і амаль хатняя атмасфера.

**В. Апанюк**

## ПАРНАСІК
ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### ІДЗЕ ВЯСНА, ГУКАЯ

*Што ты, браце, яшчэ ў хаце,*
*Цяплыня такая?*
*Глядзіць сонца у ваконца,*
*Да цябе маргая.*
*Над старонкай песняй звонкай*
*Ідзе вясна, гукая,*
*Надаела зіма бела,*
*Ад нас уцякая.*
*Твае поле, лес, таполя,*
*З вецяркам гуляюць,*
*Выйдзь, прайдзіся, не журыся —*
*Яны запрашаюць.*
*Жаўрык ўзбіўся, з песняй зліўся,*
*Высока лятая*
*І да вёскі праз палоскі*
*Цябе выглядая.*
*Трэба знаць — луг, сенажаці*
*Падкормкі чакая,*
*Кліча ў поле луг гараці*
*І зямля сырая.*
*А ты, браце, у той хаце*
*Радасці не маеш,*
*Глянь, здаецца, свет смяецца,*
*Зямля вясну вітая.*

**А. Леўшук**

## Для ўсіх дзяцей

У новым школьным годзе 1978/79 Гайнаўка як першы горад у Беластоцкім ваяводстве забяспечыць усе патрэбы на месцы для дашкольнікаў. Дагэтуль у Гайнаўцы каля 300 дзяцей у прадшкольным узросце не мелі месца. Але вось былі праведзены рамонт будынка, дзе змяшчалася камендатура МО на вуліцы Варшаўскай, і тут будзе адкрыта прадшколле.

Вялікую дапамогу ў гэтым аказваюць гораду таксама Гайнаўскае прадпрыемства сухой дыстыляцыі драўніны, якое пабудавала прадшколле на 120 месц на вуліцы Врублеўскага за 3 мільёны злотых. Заканчваецца пабудова прадшколля на вуліцы Рэя, якое будуе Гайнаўскае прадпрыемства драўніннай прамысловасці. Так што хутка закончацца ў Гайнаўцы ўсе клопаты з месцамі ў прадшколлях.

**Э. Вайсковіч**

## Толькі памагчы

У вёсцы Грабавец Дубіцкай гміны насупраць крамы каля самай дарогі ёсць нізкае месца, дзе, калі пройдзе дождж, робіцца столькі гразі, што нельга прайсці. Сюды трэба навезці пяску і жвіру, а тады палажыць бручок з каменя. Першае — пясок і жвір жыхары вёскі абавязаліся зрабіць грамадскім чынам і яны гэта зробяць. Другое — бручок — самі не змогуць выканаць. Тут неабходны брукар, і аб гэтым ужо гміна павінна паклапаціцца, памагчы вёсцы.

**П. Д.**

## Гаспадыні ў Відаве

Гурток вясковых гаспадынь у Відаве паўстаў у 1974 годзе і налічвае 30 гаспадынь. Старшынёй гуртка з'яўляецца Юлія Белаказовіч. Каб навучыцца розным новым рэчам, жанчыны арганізоўваюць курсы і даклады. Гурток прымаў удзел у конкурсе „Больш гародніны і кветак!". Атрымалі дыплом.

У лютым гэтага года гурток купіў 500 куранят, і ўсе іх разам гадавалі ў адным будынку, каб падраслі. Потым раздзялілі паміж гаспадынямі. Калі кураняткі былі слабыя і гадаваліся супольна, відаўскія жанчыны дзяжурылі ля іх.

**Андрэй Гаўрылюк**

## Новы солтыс у Ліпінах

Новым солтысам у вёсцы Ліпіны каля Гайнаўкі быў выбраны Язэп Лукашэвіч, былы шматгадовы працаўнік дзяржаўных лясоў, цяпер на пенсіі.

Вёска Ліпіны мае многа праблем: няма святліцы і спажывецкай крамы, злеўня малака стаіць незагаспадараная, зменшылася гадоўля кароў. Усе гэтыя справы стаяць перад новым солтысам і ўсёй вёскай.

**Вірскі**

### У ВЁСЦЫ ЦЯЛУШКІ

У Цялушках адбыліся выбары солтыса. Ранейшым шматгадовым (14 гадоў) солтысам быў Павел Марчук. На сходзе Павел Марчук выступіў са справаздачай аб дасягненнях вёскі за апошні час. Павел Марчук прапанаваў, каб выбраць іншага чалавека солтысам, але ўсе гаспадары вёскі аднадумна выбралі ў далейшым сваім солтысам Паўла Марчука. Вельмі вялікі аўтарытэт мае гэты чалавек у вёсцы. Падсолтысам стаў Максім Андрэюк.

**М. Матвеюк**

### ТУРЫСТЫЧНЫ ДОМ У ГАЙНАЎЦЫ

Турысцкі рух у Белавежы расце з году ў год. Многія экскурсіі на прычыне недахопу кватэр у Белавежы і Гайнаўцы не могуць належным чынам наведаць Белавежскую пушчу. Вымушаны ў адзін дзень прыехаць і выехаць.

Становішча паправіцца ўжо ў наступным годзе, дзякуючы запланаванаму вялікаму Дому экскурсанта ў Гайнаўцы, коштам 20 мільёнаў зл. За адзін раз там зможа пераначаваць 120 асоб. На месцы будзе рэстаран.

З вялікай радасцю можна сказаць, што пабудова распачалася ўжо ў IV квартале 1977 года. На вуліцы Паркавай у Гайнаўцы ўжо растуць сцены Дома экскурсанта. Так што, дарагія чытачы „Нівы", неўзабаве вы зможаце спакойна палазіць па пушчы. Кватэра і харчы будуць вас чакаць.

**Э. Вайсковіч**

## Пачын моладзі

Дубіцкая моладзь, якая належыць да Саюза сацыялістычнай моладзі, у красавіку, з нагоды свайго свята арганізавала грамадскі пачын. 15 юнакоў у гэты дзень перасыпала ў філіяле ГС у Дубічах Царкоўных 30 тон штучных угнаенняў. Маладыя людзі абяцалі, што ў хуткім часе паўтораць пачын. Арганізатарам быў дырэктар ГОКу Г. Шварц.

**М. Панфілюк**

## Наш пісьманосец



Пісьманосец Мікалай Астапчук, які працуе на пошце ў Клюковічах у гміне Нурэц-станцыя, дае добры прыклад іншым пісьманосцам з тэрыторыі гміны. Розныя лісты, пачкі, а найважнейшае — грошы за зданыя сельскагаспадарчыя прадукты (у выпадку вёскі Літвінавічы — грошы за малако) ён даручае ў як найхутчэйшым часе.

Чалавек гэты не можа вытрываць, каб не даручыць лісту адразу, як толькі прыходзіць ён на пошту. А былі перад нашым пісьманосцам Мікалаем Астапчуком і такія, што нават заказныя пасылкі даручалі са спазненнем.

Людзі, з якімі працуе Мікалай Астапчук, вельмі задаволены сваім пісьманосцам і прасілі ў мяне, каб пару слоў пахвалы і падзякі я змясціў у „Ніве".

**А. Іваноўскі**

## Знак — завалідарога

На скрыжаванні вуліцы Кляшчэлеўскай у Бельску з шашой, якая ідзе ў Гайнаўку, ёсць невялікі скверык. У гэтым месцы дарожнікі паставілі велізарны інфарматар, які паказвае напрамак у бок Кляшчэляў. Велічыня гэтага дарожнага знака прыблізна каля 2 метраў у шырыню і каля паўметра ў вышыню.

Такім чынам усе, хто едзе з боку Бельска ці Гайнаўкі ў Кляшчэлі, ужо здалёк бачаць, куды трэба павярнуць. У адваротнай сітуацыі знаходзяцца тыя, хто едзе з боку Кляшчэляў і хоча павярнуць на скрыжаванні налева. Гэтым вельмі цяжка ўбачыць, ці з боку Гайнаўкі ніхто не едзе, бо вышэй спамянуты дарожны знак засланяе. Вось і стукнулася тут машына бельскай хуткай дапамогі з аўтобусам, які ехаў з Гайнаўкі.

Думаю, што гэты дарожны знак можна перанесці з сярэдзіны вуліцы на бок і тады ён таксама будзе добра інфармаваць.

**(лор)**

### З ГІСТОРЫІ ГМІНЫ

## Дубічы Царкоўныя

У 1886 годзе вёскі: Дубічы Царкоўныя, Тафілаўцы, Грабавец, Чэхі, Рудка і Тапары мелі ворнай зямлі 3152 дзесяціны, лугоў — 978 дзесяцін, пад лесам — 431 дзесяціну і няўгоддзяў — 1263 дзесяціны.

Сялянская зямля складала тут 90 працэнтаў, панская і царкоўная — 10 працэнтаў.

Вёска Тафілаўцы дзялілася на дзве вёскі: Дубічы-Мураваныя і Дубічы-Тафілаўцы. Назва Тафілаўцы ўтварылася ад імя пана Тэафіла Бжазоўскага, які меў тут свой маёнтак.

Вёска Дубічы Царкоўныя ў XVII ст. мела яшчэ і другую назву — Жарывэц. А ў склад сённяшняй вёскі Рудка увайшлі пасёлкі: Краскоўшчына, Бахматы і Юскі.

**М. Л.**

### СКАРДЗЯЦЦА

Жыхары вёскі Рутка, Дубіцкай гміны, скардзяцца, што ў іх яшчэ восенню прапала вулічнае святло і ўсю зіму па сённяшні дзень яго няма. Хоць вёска гэта невялікая (крыху больш 20 хат), аднак варта, каб і тут было на вуліцы асвятленне, зусім інакш чалавек адчувае сябе, неяк культурней і зручней.

**Ад рэдакцыі:** У напісанні вёскі *Рутка* выступае ў матэрыялах нашых карэспандэнтаў разнабой. Некаторыя пішуць праз *т*, іншыя праз *д*. Можа хто зацікавіцца этымалогіяй гэтай назвы і ўстанавіць, як мы будзем пісаць — *т* ці *д*.

## Праз цяжкасці — наперад!

Працаўнікі Гайнаўскага аддзела Ваяводскай паслуговай спулдзельні працы перажываюць вялікую радасць. Упершыню заваявалі яны першае месца ў спаборніцтве працы паміж аддзеламі Беластоцкага ваяводства і атрымалі пераходны сцяг і дыплом.

План на 1977 год яны выканалі ў 106,8 працэнта. Найбольшы ўзрост наступіў у паслугах насельніцтву — аж 136 працэнтаў плана. Павелічэнне паслуг насельніцтву жыхары Гайнаўкі адчуваюць вельмі выразна кожны дзень.

Гайнаўскім аддзелам ВУСП кіруе дырэктар Мікалай Сапежка. Нялёгкая гэта праца. Аддзел мае 30 майстэрняў, раскінутых па цэлым былым Гайнаўскім павеце. У кааператыве працуе 167 працаўнікоў. Майстэрні змяшчаюцца ў старых будынках. Машыны таксама ўжо выпрацаваны. А ўсё ж такі заваявалі першае месца.

На асобную пахвалу заслугоўвае майстэрня ў Дубінах, якой кіруе Аляксандр Касько. Яны на 700 тысяч злотых перавыканалі план. Таксама варта пахваліць майстэрню ў Нараўцы, якую вядзе Аляксандр Салагуба.

**Э. Вайсковіч**

## АБ НАРВЕ

Мястэчка Нарва знаходзіцца ў паўднёва-ўсходняй частцы Беластоцкага ваяводства. Разлажылася на левым беразе ракі Нарвы. Тут разбудаваны добра ПОМ, РЗБВ, ГС, а цяпер шырока разбудоўваецца яшчэ і ВСГР. Сама Нарва невялікая, але штораз больш разрастаецца, асабліва пасёлак каля ПОМу.

Найдаўжэйшай вуліцай у Нарве з'яўляецца вуліца Міцкевіча, якая ідзе ў напрамку Гайнаўкі. Гэтай вуліцай штодзённа праязджае многа машын, а летам нават замежных, якія едуць наведаць Белавежу. Але тут ёсць адна засярога. Вуліца Міцкевіча вельмі вузкая. Мала дзе сустрэнеш на ёй прыгожую агароджу, а ўжо найгоршае тое, што на вуліцы стаяць памаляваныя ў белачырвоныя палоскі электрычныя стаўбы-завалідарогі.

Асабліва аб гэтых стаўбах і варта, каб як найхутчэй падумалі адпаведныя ўлады і як найхутчэй іх павыкідалі.

**М. Лук'янюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да заметкі „ПАД РАЗВАГУ АДДЗЕЛУ ВСС У ГАЙНАЎЦЫ", „Ніва" № 16/1155 ад 16 красавіка 1978 года.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKA SPÓŁDZIELNIA SPOŻYWCÓW „SPOŁEM" W BIAŁYMSTOKU ODDZIAŁ W HAJNÓWCE.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Pod rozwagę Oddziałowi WSS w Hajnówce" zamieszczoną w tygodniku „Niwa" z dnia 16 kwietnia 1978 roku. Dyrekcja tutejszego Oddziału uprzejmie informuje, że zgodnie z życzeniami mieszkańców dzielnicy Paszki oraz postulatami Komitetu Osiedlowego sklep spożywczy na wymienionym osiedlu począwszy od dnia 24 kwietnia bieżącego roku będzie czynny w dni powszednie od godz. 6-tej do 17-tej oraz w soboty od godz. 6-tej do 15-tej. Uruchomienie sklepu również w godzinach rannych w niedzielę i święta jest w obecnej chwili niemożliwe z uwagi na przekroczenie funduszu płac.

**Dyrektor Oddziału**
**Wacław Belter**

**Да заметкі „БЕЛАВЕЖА БЕЗ ЦЫРУЛЬНІКА", „Ніва" № 8/1147 ад 19 лютага 1978 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W BIAŁOWIEŻY**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Białowieża bez fryzjera" zawiadamiamy, że istotnie od miesiąca grudnia 1977 roku brak jest punktu usług fryzjerskich w Białowieży.

Obywatelka Krystyna Matusiak, prowadząca zakład fryzjerski, zmuszona była zlikwidować zakład z uwagi na bardzo mały dochód. Od miesiąca grudnia przeszła ona do innej pracy i usługi fryzjerskie wykonuje w godzinach popołudniowych.

**Z up. Naczelnika Gminy**
**mgr inż. Halina Kuprel**
**Sekretarz Biura**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruch", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

Імпартгумар

# ПАДЗЯКА

У правага майго суседа тэлевізар перастаў паказваць. Гук, праўда, ёсць, а астатняга — нічога няма. І не прадбачыцца. Нешта там перагарэла ці замкнула.

У Івана Абакумавіча, што злева праз сцяну жыве, таксама бяда — вадзяное ацяпленне цячы стала. Цурчыць і цурчыць. За гадзіну — чатыры вядры. Нешта там адвінцілася ці прарвала.

Ля нашага пад'езда сувязісты з электрыкамі паўгода таму назад траншэю пракапалі. Глыбокую. І ў шырыню метры са два. З разбегу толькі адолець можна.

Усе ў нашым шматкватэрным доме пра гэта ведаюць — пра тэлевізар, цякучае ацяпленне, глыбокую траншэю. Толькі чуеш — беспарадак, няма на іх управы! Але ўсе на нармальных работах працуюць, а я — у рэдакцыі.

Таму Іван Сцяпанавіч, што з тэлевізарам, пры сустрэчы мне так кажа:

— Пяты дзень тэлемайстра чакаем! „Вечны кліч" не бачыў. Гульню з канадцамі прапусціў. Заўтра зноў хакей. А тут — на табе! Во работнікі... Напісалі б вы ў сваю газету.

Я яму:

— Калі ласка, напішыце самі. Хаця б факты... А мы падрыхтуем. І — за вашым подпісам. Рэдакцыя будзе рада лічыць вас пазаштатным карэспандэнтам.

Размова тут жа замялася.

Левы сусед павёў размову яшчэ больш рашуча:

— Дык вы ж у газеце працуеце! А ў мяне цвырчыць і цвырчыць. Не паспяваю посуд падстаўляць і адносіць. А яны не едуць! У вас там і рубрыкі ёсць розныя.

— Напішыце самі, — не ўтрымаўся я. — Тады справа пойдзе хутчэй. Тут патрэбна слова радавога чытача.

Якраз у гэты момант Ганна Міронаўна, кулінар і жылец нашага дома, траншэю пералазіла. Атрэсла потым камячкі зямлі з паліто і таксама ўключылася ў размову:

— Поўны дом жыхароў, а толку... І па выгляду ўсе — прыстойныя! А паскардзіцца куды-небудзь, знайсці праўду-матухну не могуць. І не жадаюць. — Звяртаючыся ж да мяне, дадала: — Некаторыя нават у газетах працуюць. Напісалі б — і справе канец.

Мяне закранула за жывое. Назаўтра я збіў з дошак масток і перакінуў праз траншэю. Купіў кніжку „Тэлевізійныя апараты" і на чацвёртую ноч адрамантаваў тэлевізар суседу справа. Дастаў разводны ключ і закруціў заглушку суседу злева.

А праз пару дзён усіх нас, работнікаў рэдакцыі, сабраў рэдактар. Кіўнуўшы ў мой бок, задаволена сказаў:

— Мы не вельмі многа ў апошні час атрымліваем пісьмаў ад сваіх чытачоў. Дык вось вучыцеся ў таварыша Пундзікава, як падтрымліваць з імі сувязь і як ажыўляць селькораўскую работу. Сёння, дзякуючы Пундзікаву, мы атрымалі тры пісьмы. Адразу!

І рэдактар зачытаў тры дасланыя падзякі ў мой адрас.

**Васіль Найдзін**



# НІЎКА



*— Вось і дачка з горада вестачку прыслала!*

## МІНІВЕРШЫ

### КАХАННЕ І ЧАС

У студэнткі Галі  
Неяк запыталі:  
— Трэба праспрагаць  
Дзеяслоў „кахаць".  
— Ён цяпер кахае, —  
Разважае тая.  
— Будучы час як жа?  
— Выйду замуж, — кажа.

**А. Лешчанка**

### ВАРТАЎНІЦА

Авечка каля плоту, ля варот,  
Капусту вартавала.  
Яна казла пусціла ў агарод  
І... той капусты там не стала.

**Васіль Сцяпанаў**

### ПАЦІКАВІЎСЯ

Да загадчыка аўтамагазінам зайшоў Кастусь і па-змоўніцку спытаў:

— Шаноўны, ці нельга яшчэ адну машыну зрабіць?

— Зрабіць, пэўна, можна, — адказаў загадчык, — але прадаць пазачаргою — ніяк.





**...Спачатку браў за душу, потым — за горла.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

*

Аўтаручка Сміта зламалася, і на верхняй кішэнцы яго кашулі ўтварылася чырвоная пляма. Жонка панесла кашулю ў чыстку. Прыёмшчык доўга глядзеў на пляму, а затым сказаў:

— Нядрэнны выстрал, мадам!

*

У беднай карсіканскай сям'і было васемнаццаць дзяцей. Аднойчы адзін з іх залез у брудную бочку. Калі яго адтуль выцягнулі, маці сказала:

— Бадай, лягчэй нарадзіць другога, чым адмыць цябе!

*

— Афіцыянт! Па-мойму, у вас порцыі сталі меншыя, чым раней.

— О, гэта аптычны падман. Залу рэстарана крыху пашырылі, таму порцыі здаюцца меншымі.

## ГУМАР З ...

### ПРЫСЛУЖЫЎ

Было гэта ў царскай арміі. Прачнуўся раніцой афіцэр і паклікаў дзяншчыка, каб той падаў яму боты. Дзяншчык прынёс і паставіў каля ложка. Афіцэр здзіўлена пытае:

— Ты чаму даў мне адзін вялікі бот, а другі малы?

— А як я магу даць адпольковыя, калі ў кухні засталася такая самая пара: адзін малы, а другі вялікі.



*— Можа, табе памагчы аклеіць абоі?*

### ІСТОТНАЕ ЎДАКЛАДНЕННЕ

Маці:  
— Што там з печы зваліласяѕ?  
Сын:  
— Штаны.  
— А чамуж такі грукат?  
— А я не паспеў з іх выскачыць.

### АПРАЎДАЎСЯ

— Заўсёды ты бярэш тое, што людзі бяруць, — папракнула мужа жонка, выходзячы з ім з магазіна.

— Калі б не меў уласнага густу, то, мусіць, і ты не была б маёй жонкай, — прамовіў ён у адказ.



## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Валі Іванюк, Марысі Жменько, Надзі Таранты з Тапчыкал змяшчаем песню*

# ROZSTANIE

**z repertuaru Stefanii Górskiej**  
**słowa: Oldlen**  
**muzyka: Stefania Górska**

Nie żal mi ciebie, nie żal mi siebie,  
żal mi tylko nas.  
Wspólnej gwiazdy w niebie, która nie wie,  
nie wie, że była, że nam świeciła,  
że nastał czas,  
gdy nasza gwiazda zgasła.  
Nie żal mi życia,  
nie żal rozbicia dwojga młodych serc.  
To tylko boli, że nas wyzwoli,  
ach! nie jedna śmierć.  
A miała być jedna, jak miłość nasza,  
teraz będą dwie.  
I to jedno mnie przestrasza.  
A więc rozstanie! Niech tak zostanie,  
daj dłoń na pożegnanie.  
Ja się nie smucę, wiem, że nie wrócę,  
gdy w głuchą pójdę dal.  
I może znów na obcym niebie przy blasku gwiazd  
pokocham ciebie...  
I dzień rozstania, dzień pożegnania  
przypomni straszny żal.  
Dwie teraz drogi, dwa teraz cele:  
zdobyć szczęścia dwa.  
Przecież to niewiele, tak niewiele...  
Szepnąć: jedyny, szepnąć: jedyna!  
Tak jak ty i ja.  
I miłość się zaczyna inna.  
Będziesz szczęśliwa, będę szczęśliwy,  
wierze, wierz i ty!  
To się tak dzieje, tak zawsze bywa,  
śmieszna rzecz, przez łzy.  
I chociaż to smutne, że to rozśmiesza,  
to uśmiechnij się.  
I to jedno mnie pociesza.  
A więc, rozstanie...

### РАЗУМОВАЯ ЗАРАДКА

— Кожную раніцу я раблю разумовую зарадку.

— Рашаеш матэматычныя задачкі?

— Ды не. Я раблю зарадку, але толькі ва ўяўленні.

### У БІБЛІЯТЭЦЫ

— Што вы мне параіце прачытаць? Я люблю кнігі невялікія па аб'ёму, але багатыя па зместу.

— У такім разе чытайце сваю ашчадную кніжку.

# КУР'ЁЗЫ

### СПЕЦЫЯЛІСТ СА СТАЖАМ

У Тэль-Авіве было вырашана стварыць Асацыяцыю ізраільска-егіпецкай дружбы. Па задуме яе стваральнікаў асацыяцыя павінна садзейнічаць абмену работнікамі розных прафесій. Намеснікам старшыні гэтай арганізацыі прызначаны Роберт Дас. У гэтага дзеяча ёсць усе падставы прэтэндаваць на лаўры аднаго з першых актыўных удзельнікаў „абмену работнікамі розных прафесій". Роберт Дас па абвінавачванні ў шпіянажы ў карысць Ізраіля 15 гадоў прасядзеў за кратамі ў егіпецкай турме...

### БУДЗЬЦЕ ДЖЭНТЛЬМЕНАМІ!

Брытанскае міністэрства ўнутраных спраў зрабіла даволі сумны падлік: расце, як на дражджах, колькасць правапарушальнікаў. У сярэдзіне шасцідзесятых гадоў за кратамі сядзела 33 тысячы чалавек, а да 1981 года гэтая лічба вырасце да 43.170...

Што і казаць, факты не суцяшальныя. А што ж рабіць? Не хапае турмаў, каб даць „прытулак" усім злачынцам.

З такой нагоды міністр унутраных спраў М. Рыс на поўным сур'ёзе прапанаваў даваць злачынцам... кароткія тэрміны зняволення. Маўляў, адсядзеў крышку — і даволі, уступі месца бліжняму свайму...

Во, як цудоўна атрымаецца: і злачынцам палёгка, і праблема будзе вырашана. У такім разе і лозунг кінуць варта: будзьце джэнтльменамі! Не затрымлівайцеся доўга ў кутузцы, дапамагайце ўладам хутчэй вырашыць турэмную праблему!

# СМЯЕЦЦА НАМ!

**Калі дзяўчына кідае хлопца то ў жар, то ў холад, значыць, яна хоча атрымаць мужчыну загартаванага як ста...**